PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 17 (1980) ГОД XXXIX БЕЛАСТОК 24 КРАСАВІКА 1994 г. ЦАНА 4000 зл.

## ДРУГІ ДОМ

Цяжка дабірацца ў Дубяжын на прадвесні. Можна з шашы Бельск — Кляшчэлі павярнуць на гравійку — дзіравую, з частымі калюжамі — у Казлы, а можа і крыху далей, на Грэдалі і Аляксы, адтуль яшчэ якія 2 кіламетры пясчанай дарогай. Аўтобус праз Дубяжын не ходзіць. У недалёкім Падбеллі (каля 1,5 км) ёсць чыгуначная станцыя. Цягнікам у Дубяжын даязджаюць, напрыклад, настаўнікі.

„Сапраўды, у нашым кутку Бельшчыны дарогі кепскія, — кажа дырэктар Падставовай школы ў Дубяжыне Надзея Аўярчук, — і гэта тым больш прыкра, што непадалёк свая жвіроўня. Куды адсюль жвіру і не бралі, адно на мясцовыя дарогі, відаць, не хапіла".

Дубяжынская школа практычна за вёскай, або, як кажуць, там людзі — на другой вуліцы. Гэта дадатковыя дзвесце метраў калюжаў, хаця сустрэчныя мужчыны, паказваючы дарогу, называюць яе „першажэнднай".

У школе ўсяго 32 вучні, акрамя самога Дубяжына, яшчэ з Казлоў і Раек. Навучаюць іх шэсць настаўнікаў, разам з паняй дырэктар — усе жывуць у Бельску. Праваслаўную рэлігію — тры гадзіны ў тыдзень — навучае бацюшка з Падбелля.

„Калі нам зачыняць школу, — смяецца пані дырэктар, — будзе гэта вашая віна. Вы лепш, замест пісаць, колькі нас тут, напішыце, як у нас ёсць".

Ад першага погляду, у школе і наваколлі заўважаецца прыкладны парадак. У залах і калідоры чыстата — аж свеціцца. Прыгожыя, арыгінальныя насценныя газеткі. У відным, можна сказаць, ганаровым месцы, беларускі куточак: вышываныя ручнікі, тканыя посцілкі, цудоўны народны арнамент. А ў зале практычна-тэхнічнага выхавання мастацкія працы саміх вучняў — вышыўка, малюнкі, абапертыя на мясцовую традыцыю, на ўзоры беларускай матэрыяльнай культуры.

„У малых школах вельмі важная адпаведная атмасфера, — падкрэслівае Надзея Аўярчук. — Мы стараемся, каб дзеці ўспрымалі гэту школу як другі дом. Уважліва слухаем вучняў, хвалім і падтрымліваем кожную станоўчую ініцыятыву, намагаемся развіваць іхнюю актыўнасць. Вядома, дзеці з вёскі, з малога асяроддзя, дык каб потым не было праблемаў з адаптацыяй у горадзе, у сярэдняй школе".




*Найлепшыя вучні (злева направа): Багуслаў Тамчук, Хрысціна Мартынюк, Дарак Тамчук, Ася Тамчук, Івона Яканюк, Пётр Бандарук, Веслаў Паўлючук, Кася Тамчук, Мажэна Бандарук, Марэк Тамчук.*

Дубяжынскія выпускнікі выбіраюць перш за ўсё тэхнікумы (найчасцей Тэхнікум сельскагаспадарчага справаводства) ды школы, якія рыхтуюць да прафесіі. Агульнаадукацыйны ліцэй не карыстаецца вялікай папулярнасцю — выбіраюць яго адзінкі. Амаль усе выхадцы з гэтай ваколіцы працягваюць навуку ў Бельску.

„У нас няма, так цяпер пашыраных у гарадах, — працягвае пані дырэктар, — выхаваўчых праблем. — Да кожнага вучня можам, практычна, падысці індывідуальна, з кожным пагаварыць, падказаць, накіраваць. Дзякуючы гэтаму не маем вучняў, якія б паўтаралі клас, ды і на ўступных экзаменах даюць яны сабе рады без большых клопатаў. Вельмі ў працы дапамагае нам шчырасць між настаўнікамі — нават наконт найдрабнейшых спраў дзелімся сваімі меркаваннямі — і парадак у школе".



*Дырэктар Надзея Аўярчук.*

Будынак дубяжынскай школы скончылі ў 1985 годзе і наўрад ці яшчэ доўга будуць ім цешыцца. У гэтым годзе адыходзяць 5 вучняў восьмага класа, а ў прадшкольны аддзел не паступіць ніводнае дзіця. На другі год дойдзе толькі двое дзетак. У школьнай акрузе ёсць яшчэ, апрача згаданых вышэй, вёска Аляксы Арлянскай гміны, але там няма ўжо ніводнага дзіцяці ў школьным узросце.

„Ужо па сяле ад некалькіх гадоў людзі гавораць, што нас зачыняць будуць, — кажа пані дырэктар, — але, каб мы слухалі кожную плётку... Мы сваю працу выконваем найлепш, як умеем, не аглядаемся на абставіны, не апраўдоўваемся цяжкасцямі. Можа таму яшчэ тут і працуем. Гэта няблага і нам — настаўнікам — бо што такое сёння праца — кожны ведае. Але яшчэ большае задавальненне

☞ *Працяг на стар. 5*




*У час перапынку.*

## КРЫНІЦА Ў ЛЯДСКАЙ ПУШЧЫ

У адзін з апошніх сонечных зімовых дзён мы трапляем у Крыніцу, адзіную „падляскую" вёску ў Нараўчанскай гміне. Алесю яна вядомая, ды даўно ў ёй не быў; за лесам яго радзінны, пакінуты хутар. Крыніца, кажа, вёсачка невялікая, але цікавая — жывуць жа ў ёй моцныя, лясныя людзі, якіх пушча гадавала і карміла.

Куды заехаць сёння? Бачым: запрэжаны ў сані, стаіць конь, засяроджана жуе аброк — па-над торбай відны толькі яго спакойныя вочы.

— Слухай, ці гэта не... конь майго брата? — здзіўляецца Алесь. — А гэта хіба дом Валодзі Келбашэўскага. Ой, пэўна, будзе народу поўная хата.

І сапраўды. За парогам кухні бачым спачатку маленькія каляровыя боцікі ўнучкі Келбашэўскіх, якія тая акуратна паставіла пяткамі да парога і пару параў вялікіх зімовых мужчынскіх чобатаў — на канапцы сядзяць Мікалай Хадакоўскі, Валодзя Хадакоўскі, дзед Лук'ян Хадакоўскі, за сталом брат Алесеў Міхась з Бярначчыны... Потым забяжыць яшчэ малады досыць, адзін з наймалодшых гаспадароў Валодзя Хадакоўскі. Ля печкі — гаспадары — Уладзімір і Ніна Келбашэўскія.

— А колькі нас тут усіх у вёсцы? — падымае далонь уверх дзед Лук'ян і лічыць: Паскробка — першы, Вера Вэршка — другая... Юстынюк Мар'я, Мікалай Хадакоўскі, Уладзімір Хадакоўскі, Антаніна (мы яе клічам Ніна) Кавальская, Антон Вэршка, Рыгор Хадакоўскі, Рыгор Ахрымюк, Валодзя Келбашэўскі, Валодзя Хадакоўскі, Вера Хадакоўская — трынаццатая... Уладзімір Хадакоўскі, ну і я — Хадакоўскі Лук'ян. Разам пятнаццаць.

— Калісь былі 22 хаты, — заўважае Ніна. — Павыязджалі. Маладых няма. Цяжка дабірацца ў гміну, у Нараўку. Шаша ёсць, праўда...

— Шаша як шаша, — хвалюецца дзед Лук'ян. — Ну, Валэнса... забраў нам „пэкаэс". Бо паглядзі — выйшаў бы на гасцінец, сеў у аўтобус і памчаўся ці ў Нараўку, ці ў Гайнаўку. Ён самалётам сабе лётае, а мы як тыя дурні пешшу ходзім і да аўтобуса ў Крывец, і на чыгунку ў Гнілец. Так у нас заўсёды было, ёсць і будзе.

— Каб хоць адзін у дзень — абы ў места даехаць, рана і ўвечары, — наракае Ніна.

— Але, дадуць праехацца, як ужо рукі зложым, за Ласінку. Там будзе табе і „пэкаэс", і што хочаш, чуеш? „Салідарнасць" сабе толькі добра зрабіла, але нам то не-е-е!

— Як было лепей — за цара ці сёння? — правакацыйна пытаецца ў найстарэйшага, Лук'яна Алесь.

☞ *Працяг на стар. 10*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*W polskiej polityce prima aprilis trwa cały rok.*

*(Rzeczpospolita, nr 77)*

**І ў тым справа, каб палітыкам было весела. Грамадства мае менш падстаў да смеху.**

* * *

*Władzę można im (SLD — red.) zabrać nawet dzisiaj, można ich wyłożyć tak, że nie poradzą sobie. Ale nie mam komu oddać tej władzy. Unia jest za słaba, a oszołomom z prawej strony nie można dać władzy, bo są oszołomieni,* — сказаў прэзідэнт Лех Валэнса.

*(Polityka, nr 14)*

* * *

*Prezydent odmawiając podpisania ustawy o neopopiwku zachował się jak socjalista, gdyż żąda od koalicji dotrzymania obietnic niemożliwych do spełnienia. Gdyby te obietnice potraktować poważnie, budżet musiałby mieć olbrzymi deficyt, a wtedy Prezydent nie podpisałby budżetu. W zależności od potrzeb Prezydent jest liberałem lub socjalistą, a gdy trzeba obydwoma naraz.*

*(Kurier Poranny, nr 65)*

**Сацыялізм ці лібералізм у польскай палітыцы абазначае штосьці зусім іншае, чым, напрыклад, у Францыі ці Нямеччыне. Тут нікога не здзіўляе факт, калі сацыяліст называе сябе лібералам ці наадварот. Усё нармальна. Пан прэзідэнт не парушае ніякіх тутэйшых нормаў.**

* * *

*Żeby zaprowadzić porządek prawny w Rosji, trzeba rozstrzelać 5 milionów ludzi, żeby zaprowadzić porządek prawny w Polsce, trzeba rozstrzelać milion osób — tłumaczył na konferencji prasowej Janusz Bryczkowski, szef Polskiego Frontu Narodowego, kandydat w wyborach prezydenckich w Polsce.*

*(Rzeczpospolita, nr 76)*

**Фашызм штораз гучней заяўляе аб сваёй прысутнасці.**

* * *

*Niemcy stanowią dla Żydów niezrozumiały żywioł, Polacy są loterią: można trafić na bohatera, można na szmalcownika. Partyzantka AK-owska, walcząca w Powstaniu Warszawskim brała udział w rozstrzeliwaniu tych nielicznych Żydów, którzy przetrwali likwidację getta.*

*(Wprost, nr 13)*

* * *

*Na Ukrainie politycy walczący o miejsce w parlamencie obiecują swoim wyborcom darmowe pogrzeby. Przy obecnym zubożeniu tamtejszej ludności nie jest to bez znaczenia. Miesięczna emerytura wynosi 4—10 dolarów, a za trumnę trzeba zapłacić 16 „zielonych".*

*(Kurier Podlaski, nr 59)*

Пенсіянеры таксама ўмеюць лічыць. А тое, хто будзе кіраваць дзяржавай — гэта для іх менш важнае, бо і так ніхто большай пенсіі як 10 долараў ім не дасць. А калі хтосьці гарантуе, што пасля смерці чалавек прынамсі ў труне ляжаць будзе, дык чаму ж не прагаласаваць за такога дабрадзея?

* * *

***Спачатку была шырока абнародавана заява аб датэрміновых выбарах парламента Беларусі ў сакавіку 1994 года, потым прапанавалася правесці ў чэрвені і ліпені. Існавала прапанова аб новым тэрміне выбараў у лістападзе гэтага года. Але і гэты перыяд таксама адхілена.***

*(Звязда, н-р 61)*

А навошта Беларусі новы парламент. Нідзе ў свеце не знойдзеш так вясёлай кампаніі, як сённяшні Вярхоўны Савет.

* * *

***Адміністрацыя Меньскага Аб'яднаньня індустрыйнага домабудаваньня выпісала ўсім сваім дзіцячым садкам газэту „Правда".***
***На беларускія дзіцячыя часопісы грошай не хапае.***

*(Свабода, н-р 12)*

Калі дзеці ў садках пачнуць чытаць „Правду", напэўна не возьмуць яе ў рукі будучы студэнтамі, нават калі „Правда" будзе пісаць самую праўду.

* * *

*Moskiewski dziennik „Komsomolskaja Prawda" wyraża zdziwienie, że rząd rosyjski nie przesłał dotychczas władzom dwóch miast na Białorusi — Tweru i Smoleńska — pieniędzy...*

*(Rzeczpospolita, nr 76)*

Таварышы камсамольцы, Цвер ніколі не была ў межах Беларусі, а Смаленск, калі яго ўжо так не хочаце, можаце аддаць беларусам.

* * *

*Coraz więcej jest młodych, sympatycznych ludzi z zacnych rodzin, którzy poderżnęli koledze gardło, ot tak sobie, bo chcieli sprawdzić, czy to będzie tak samo jak w filmie.*

*(Polityka, nr 13)*

* * *

*Około dziesięciu uczniów Szkoły Podstawowej nr 47 w Białymstoku terroryzuje szkołę i osiedle. Banda skinów z łańcuchami i nożami grozi nauczycielom. Matka jednego z nich charakteryzuje go jako aniołka. Małolat uważa się za idealnego skina, to jedyny system wartości, z którym się identyfikuje. Nic zatem dziwnego, że mamusia inwestuje w swego „aniołka" — serwuje mu co dzień piwo — chyba po to, by uśmierzyć jego „anielskie" instynkty.*

*(Kurier Poranny, nr 55)*

„Анёлак" з нудаў мог бы таксама камусьці падрэзаць горла. — Як ты забрудзіўся, сынку, — сказала б пэўна яго мама.

* * *

*Wśród Murzynów trafiają się albinosi, wśród działaczy związków zawodowych trafiają się ludzie spokojni, kulturalni, rozsądni, a wśród dziennikarzy trafiają się abstynenci. Nie są to jednak zbyt częste wypadki. Wprawdzie działacze „Solidarności" złożyli wniosek do prezydenta miasta Białegostoku o natychmiastowe wykopanie „Niwy" ze wspólnego budynku, ale aż dziw, że nie złożono wniosku w najbliższej brygadzie pancernej o rozstrzelanie „Niwy" z czołgów.*

*(Kurier Podlaski, nr 52)*

Актывісты з „Салідарнасці" звярнуліся аднак за дапамогай у тайную паліцыю. Як за даўніх добрых часоў „працоўны актыў" паказвае найвышэйшы ўзровень патрыятызму ў змаганні за вольную і свабодную ад усялякай іншасці Рэчпаспаліту.

❐

# З мінулага тыдня

**Прэзідэнт Лех Валэнса** падпісаў ухвалены Сеймам бюджэт дзяржавы на 1994 год. Прэзідэнт заявіў таксама, што намерваецца ўнесці супраціў да закона аб выбарах у гмінныя рады, бо вядзе ён, на яго думку, да палітызацыі самаўрадавых выбараў. „Кааліцыя хоча мець сваіх людзей у гмінах, каб мець уладу і фінансавыя магчымасці", — сказаў прэзідэнт.

**Дзевятнаццаць працэнтаў рэспандэнтаў** інстытута даследавання грамадскай думкі „Дэмаскоп" мяркуе, што найбольш паспяхова на рашэнні людзей улады ўплываюць паслы і сенатары, 13% лічыць, што страйкі, а 10% — што журналісты. 7% апытаных указалі на выбары ў мясцовыя самаўрады. Толькі 4% рэспандэнтаў апошняга апытання „Дэмаскопа", якое праводзілася ў канцы сакавіка г.г., сцвердзіла, што на працягу апошняга года павялічыўся ўплыў грамадства на ход падзей у краіне.

**Міністр замежных спраў Балгарыі Станіслаў Даскалаў** выказаў задавальненне ходам перамоў у Польшчы. Падкрэсліў ён добрыя перспектывы развіцця гаспадарчага супрацоўніцтва паміж Польшчай і Балгарыяй. Асаблівую ўвагу балгарскі міністр адвёў падпісаным дамовам аб пазбяганню падвойнага падаткаабкладання і аб узаемнай падтрымцы інвестыцый. На думку Станіслава Даскалава, двухбаковы ўзровень гандлёвага абмену — 50 млн. долараў — не адпавядае магчымасцям абедзвюх дзяржаў.

**Граф Аляксандр Прушынскі**, пасля пяцісутачнага прабывання ў следчым ізалятары ў Менску, быў высланы цягніком з Беларусі ў Польшчу з прычыны парушэння пашпартных законаў. Апошнім часам жыў ён у Менску і вылучыў сваю кандыдатуру на пасаду прэзідэнта рэспублікі. Польскае пасольства ў Менску, якое атрымала паведамленне пасля выдалення, запатрабавала ў беларускага міністэрства замежных спраў дэталёва высніць справу.

Праўдападобна яшчэ ў гэтым годзе пачнецца будова польскага адрэзка **газаправода Расея — Нямеччына**. Ужо вядома, што польскі адрэзак газавай магістралі будзе будавацца пачынаючы ад заходняй граніцы. Спецыялісты мяркуюць, што будова газаправода будзе самай вялікай тэхналагічнай аперацыяй у гісторыі польскай газавай прамысловасці. На польскім адрэзку прадугледжана пабудову 5—6 газакампрэсарных станцый, у тым ліку адну на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства. Газаправод з напрамку Беларусі ўвойдзе ў Польшчу каля вёскі **Кандраткі** Міхалоўскай гміны.

**Паўтаратысячная група маладых яўрэяў**, якія прабывалі ў Польшчы ў рамках „Маршу жывых", **наведалі Тыкоцін**. Пасля візіту ў сінагозе маладыя яўрэі з Ізраіля, ЗША, Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі, Мексікі і Бразіліі падаліся ў Лапухова — месца пакутніцкай смерці тыкацінскіх яўрэяў.

**Пяцігадовы юбілей адзначаў Беластоцкі аддзел Саюза польскіх літаратараў**, які гуртуе пісьменнікаў з Беластоцкага, Сувальскага і Астралэнцкага ваяводстваў. Беластоцкі аддзел налічвае цяпер 25 членаў, у тым ліку 9 „белавежцаў".

**У Беластоку** прабываў саветнік мэра Калінінграда **Валяр'ян Юроў**. Мэта візіту — пошукі партнёраў у гаспадарчым супрацоўніцтве.

**У конкурсе на каралеву прыгажосці Падляшша** перамагла ў гэтым годзе дваццацігадовая **Кацярына Алексяюк** з Гайнаўкі. Падляшская прыгажуня вучыцца ў Медыцынскім вучылішчы ў Беластоку.

**Службовы кантакт** праз дзяржаўную граніцу наладзілі брэсцкія міліцыянеры з польскімі паліцыянтамі. Асабліва добрыя справы ў іх у пошуку крадзеных аўтамабіляў. Сумесныя аперацыі дапамаглі выявіць шэраг выкрадальнікаў з краін СНД, якія стараліся пераганяць і прадаваць аўтамабілі на тэрыторыі суседніх краін.

**На кантрольна-прапускным пункце ў Полаўцах** функцыянеры Гранічнай стражы затрымалі 28-гадовага грамадзяніна Беларусі, які падарожнічаў на аўтамашыне „Аўдзі 80" з фальшывымі рэгістрацыйнымі нумарамі.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- Велікодныя святкаванні ў мінулым.
- Крыж Еўфрасінні Полацкай і гісторыя Беларусі.
- Таленавітыя вучні з Маліннікаў.
- Інтэрв'ю з паэтам Барысам Руско.

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### Візіт галавы ААН

7 красавіка завяршыўся трохдзённы візіт у Беларусь генеральнага сакратара Арганізацыі Аб'яднаных Нацый Бутраса Галі. Па словах госця візіт быў накіраваны на ўмацаванне міжнародных адносін і насіў канструктыўны характар. У ходзе яго абмеркаваны шэраг пытанняў, галоўным з якіх стала праблема аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Бутрас Галі азнаёміўся таксама з дзяржаўнай праграмай па гэтым пытанню — з „Чарнобыльскім мемарандумам" — ды наведаў шпіталь у Аксакаўшчыне. Генеральны сакратар сказаў, што ААН выконвае ролю каталізатара ў прыцягненні сусветнай грамадскасці да чарнобыльскай праблемы. У перамовах закраналіся яшчэ пытанні беларускай меншасці ў дзяржавах Балтыі і справа магчымага ўдзелу беларускага войска ў міратворчых аперацыях ААН.

### Лукашэнка зрабіў сваё і...

Зменены дзвярны замок і апячатаны дзверы кабінета старшыні парламенцкай антыкарупцыйнай камісіі Аляксандра Лукашэнкі. Зроблена гэта ў сувязі з тым, што кіраўніцтва рэспублікі лічыць місію названай камісіі выкананай. У прыватнасці, старшыня Вярхоўнага Савета Мечыслаў Грыб на нарадзе кіраўнікоў праваахоўных органаў заявіў, што праца камісіі практычна завершана. Аляксандр Лукашэнка, аднак, лічыць інакш і працягвае абвінавачваць у карупцыі чарговых міністраў і віцэ-прэм'ераў ды патрабаваць іх адстаўкі. Старшыня парламенцкай камісіі па заканадаўству Дзмітрый Булахаў выказаў асцярогу, што зараз могуць быць прадпрыняты спробы закрыць фінансаванне антыкарупцыйнай камісіі, закрыць ёй рот і спыніць яе ўсялякую дзейнасць. Пакуль адзінае, чаго дамагалася камісія — гэта адстаўка Станіслава Шушкевіча з пасады старшыні Вярхоўнага Савета, якая адбылася пасля абвінавачання яго ў недаплаце некалькіх соцень рублёў урадаваму рамонтна-будаўнічаму ўпраўленню.

### Вайскоўцы-паліглоты

Менскае Вышэйшае ваенна-каманднае вучылішча да ліпеня 1995 года будзе пераўтворана ў Вышэйшую акадэмію Узброеных Сіл Беларусі. У новай вучэбнай праграме асаблівая ўвага будзе надавацца вывучэнню замежных моў.

### Прыватызацыя дзяржмаёмасці

Узростам і стажам работы грамадзяніна Беларусі будзе вызначацца колькасць перададзенай яму дзяржаўнай маёмасці. Пачалася ўжо выдача прыватызацыйных чэкаў, а з 1 ліпеня грамадзяне атрымаюць магчымасць выкупляць па чэках акцыі. Чалавек сярэдняга ўзросту і з сярэднім працоўным стажам можа атрымаць, прыкладна, 50 чэкаў, пенсіянер — 70—80, дзіця да 16 гадоў (на 3.08.1993 г.) — 10 чэкаў. Ну а той, хто нарадзіўся пасля 3 жніўня, на дзялёжку спазніўся і яму чэкаў не выдадуць.

### Неўзабаве новыя пашпарты

Хутка Савет Міністраў павінен зацвердзіць палажэнне аб пачатку пашпартызацыі ў рэспубліцы. Атрымаюць новы пасведчанні толькі грамадзяне Беларусі. Кошт пашпарта — тры долары. У адрозненне ад старога, у новым пашпарце не будзе звестак аб нацыянальнасці і ваенным абавязку. Таксама замест сістэмы ўклейвання ў 25 і 45 гадоў фотакартак, новы пашпарт у гэтым узросце мяркуецца мяняць. Пашпарт будзе мець каля 40 ступеняў абароны.

### „Беларускія" музыканты

Чарговае апытанне студэнцкай моладзі правяла Праблемная лабараторыя сацыялогіі музыкі Беларускай Акадэміі музыкі. Вось некалькі фактаў: за навучанне на рускай мове выказалася больш за 47% апытаных і толькі 15% лічыць неабходным вучыцца на беларускай мове. Ведаюць добра родную мову толькі 35%, размаўляць і чытаць на ёй не могуць больш як 50% студэнтаў Беларускай, заўважце, акадэміі музыкі.

### Менш сталовых

На трэціну, у параўнанні з тым жа перыядам мінулага года, паменшала сталовых на прамысловых прадпрыемствах Менска і Менскай вобласці. Паводле даных прафсаюзаў, пунктамі харчавання, якія яшчэ засталіся, карыстаецца больш, чым чвэрць былых наведвальнікаў рабочых сталовых. Прафсаюзы мяркуюць, што з-за дарагоўлі працоўныя ў абедзенны час харчуюцца ў сухамятку, а гэта, натуральна, не садзейнічае ні якаснай працы, ні страўніку.

### Хлебная кантрабанда

Самачынны экспарт хлеба з Віцебска на Смаленшчыну падобна ўжо сур'ёзна закрануў эканамічныя інтарэсы расейскіх хлебапёкаў. У Рудні, куды штодзённа прыбывае дызель-цягнік „Віцебск", у хлебазавода ўзнікае сур'ёзная праблема збыту. Кампетэнтныя органы суседніх абласцей спрабуюць сумесна супрацьстаяць хлебнай кантрабандзе, але ні штрафы, ні пагрозы крымінальнай адказнасці пакуль не ў стане спыніць віцебскіх г.зв. „прадпрымальнікаў".

### Арыштантам цесна

Скаргу-пратэст на цеснату накіравалі мясцовым уладам зняволеныя турмы ў Баранавічах. Зараз на турэмнай жылплошчы ўтрымліваецца амаль удвая больш зняволеных, чым належыць па норме. Вывучэннем праблемы занялася спецыяльная камісія.




**Шаноўны рэдактар!**

Звяртаюся да Вас з просьбай надрукаваць інфармацыю пра ніжэйзгаданую нашу ініцыятыву, а таксама праінфармаваць пра гэту падзею Беларускае грамадска-культурнае таварыства ў Польшчы.

Лідская гарадская рада Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны сумесна з Таварыствам польскай культуры на Лідчыне і Таварыствам яўрэйскай культуры на Лідчыне вырашылі 12—18 мая 1994 года правесці ў Лідзе Сусветны з'езд прадстаўнікоў усіх народаў, хто лічыць Ліду і Лідчыну сваёй радзімай. На правядзенне гэтага мерапрыемства нашы землякі з далёкага замежжа павінны будуць ахвяраваць 120 амерыканскіх долараў, а землякі з Польшчы — 1 млн. 200 тыс. злотых.

Па ўсіх астатніх пытаннях зацікаўленыя няхай звяртаюцца да пані Рэгіны Маркевіч па тэлефоне 57—96—71 у Варшаве.

Вельмі прашу аказаць нам патрэбнае садзейнічанне ў правядзенні з'езду.

З павагай —
**Міхась Мельнік,**
старшыня Лідскай гарадской Рады
Таварыства беларускай мовы
імя Ф. Скарыны

Адрас для карэспандэнцыі:
231300, Беларусь,
Гродзенская вобласць,
горад Ліда,
вуліца Кірава, 27,
Таварыства беларускай мовы
імя Ф. Скарыны,
тэл. 2—48—16 (у Лідзе)

* * *

**Szanowni Państwo,**

przygotowuję monografię dotyczącą mniejszości narodowych na Pomorzu Zachodnim po II wojnie światowej. W swych poszukiwaniach trafiłem także na ślady odnoszące się do ludności białoruskiej. Wiem, że w lipcu 1957 roku w Szczecinie ukonstytuowało się koło Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego, liczące 30 osób, którego przewodniczącymi byli kolejno Michał Artyszewicz i Mikołaj Syczewski. Koło zaprzestało swej działalności w lipcu 1961 roku. Niestety brakuje mi dokładniejszych wiadomości o tym kole, jak i o innych przejawach życia Białorusinów na Pomorzu Zachodnim.

Stąd moja gorąca prośba do redakcji i czytelników „Niwy" o wszelkie informacje na ten temat, ewentualne udostępnienie posiadanych dokumentów, relacji, wspomnień i zdjęć (zobowiązuję się po ich zreprodukowaniu zwrócić je właścicielom).

Mam nadzieję, że z Państwa pomocą uda mi się przedstawić rzeczywisty i obiektywny obraz życia mniejszości narodowych na Pomorzu Zachodnim.

Z wyrazami szacunku
**Janusz Mieczkowski**

**Adres do korespondencji:**
Dr Janusz Mieczkowski,
Instytut Filozofii i Politologii
Uniwersytetu Szczecińskiego,
ul. Tarczyńskiego 1,
70—387 Szczecin

* * *

**Паважаная Рэдакцыя!**

Прашу дасылаць мне Ваш тыднёвік, пачынаючы з II квартала гэтага года, па пошце. Пры нагодзе хачу звярнуць Вашу ўвагу на працу „Руху", які распаўсюджвае, між іншым і „Ніву" на тэрыторыі краіны, а паслугамі якога вымушаны карыстацца падпісчыкі з-па-за Беласточчыны. У маім выпадку падпіска „Нівы" ў фірме „Рух" — гэта пастаянны стрэс і пачуццё віны з-за ласкі, якую аказвае той жа „Рух". Пасобныя экземпляры тыднёвіка спазняліся па некалькі тыдняў або прападалі, былі клопаты з пастаўкай і тых нумароў, якія дайшлі ў мой горад... Мне ўжо абрыдла рэкламаваць, а мясцоваму аддзелу „Рух" пісаць у Беласток. Хто і як там, у Беластоку, працуе, можна толькі здагадвацца!

Прапаную, каб час ад часу друкаваць у „Ніве" прозвішча і адрас кіраўніка беластоцкага аддзела „Руху", адказнага за высылку газеты ў іншыя аддзелы ў краіне, а таксама прозвішча ягонага начальніка. Можа тады хтосьці не стрывае і правучыць несумленных працаўнікоў, як трэба шанаваць працу.

**ІЛІРЫК ВАРАЎКА,**
Згажэлэц

# ДУБЫ ЎМІРАЮЦЬ, ЯК ЛЮДЗІ

Той, хто некалі наведваў Белавежу, напэўна звярнуў увагу на групу старых, 200—400-гадовых дубоў, якія растуць у Палацавым парку, побач турысцкага комплекса „Іва" і Прыродазнаўчага музея. Зрэшты, яны некалькі гадоў назад карысталіся асаблівай папулярнасцю, таму што на адным з гэтых дрэў паявіўся вобраз людской галавы.

Гаворыцца, што на месцы, дзе растуць дубы, у часы язычніцтва быў „святы гай". Месца гэтае доўга ўшаноўвалася мясцовым насельніцтвам таксама пасля ўвядзення хрысціянства. Мабыць, таму і маглі захавацца тут дрэвы, што на „святым месцы" ніхто не адважыўся іх высечы, у той самы час, як уся Белавежская паляна была агольвана з дрэў.

Цяперашнія дубы пачалі расці ў часах, калі хрысціянства ўжо ўкаранілася на гэтай тэрыторыі. Не вядома толькі, ці яны выраслі натуральным ходам, ці былі пасаджаны. Украінскі экстрасенс, Васіль Магілеўскі, які наведаў Белавежу напрыканцы адышоўшай зімы, сцвердзіў у непасрэднай „размове" з адным дрэвам, што яно было пасаджана 200 гадоў назад чалавекам, які меў павыкручваны пальцы рук. Верыць, не верыць? Але калі б яно так і было, як хоча Васіль Магілеўскі, то дрэвы мусілі б садзіць некалькі чалавек, у розных перыядах — узрост гэтых дрэў не аднолькавы ж!

Першая інфармацыя аб згаданых дубах датуецца пачаткам XIX ст. Малюнак з іх выявай (выкананы ў 1821 г.) быў змешчаны ў кніжцы, напісанай баронам Брынкенам, выдадзенай у 1826 г. На выгляд, дубы былі даволі маладыя — дзесьці ва ўзросце 50-ці гадоў, прынамсі большасць з іх. Расло іх недзе 30 штук, мо крыху больш.

Віктар Шыманскі, які наведаў Белавежскую пушчу ў першай палове 20-х гадоў нашага стагоддзя, і потым у 1925 годзе выдаў цікавы даведнік пра пушчу, успамінае, што на ўзгорку рос 21 дуб.

З таго моманту прайшло каля 70 гадоў і дубоў ізноў паменшала. Некалькі гадоў таму расло іх яшчэ 17, потым засталося 16. А, вось, зараз ужо толькі 15. Моцны вецер, які дзьмуў напрыканцы сёлетняга сакавіка, зламаў 200-гадовае дрэва. Праз некалькі дзён яго парэзалі на дровы. Цяпер у гэтым месцы тырчыць толькі пянёк.

Пасмутнела ў парку. Міжвольна ціснецца ў галаву думка, як доўга пратрымаюцца апошнія дубы? Тым больш, што многія з іх у сярэдзіне ўжо пустыя і трымаюцца толькі вонкавым пластом драўніны. Рэстаўратарскія працэдуры, якія выконваюцца апошнімі гадамі, не многа ім памагаюць. На старасць, на жаль, няма лякарства!

Усе названыя дубы лічацца помнікамі прыроды. Калі будзеце ў Белавежы, адведайце іх, нацешце імі вочы. Магчыма, праз нейкі час іх будзе яшчэ менш!

**ПЁТР БАЙКО**

# МАЛАШКОДНЫ ЎЧЫНАК

На другі дзень пасля каталіцкага Вялікадня ў нашу рэдакцыю прыйшлі пажылыя людзі — сужонства Вера і Ян Талуці з Беластока і расказалі сумную гісторыю з апошніх гадоў свайго жыцця. Жывуць яны ў шматпавярховым будынку пры вул. Пагоднай. У суседзяў, насупраць іх кватэры, часта збіраецца „вясёлая кампанія" з цэлага будынка. Калі канчаецца ім гарэлка, прыпамінаюць сабе, што побач знаходзяцца „кацапы", коштам якіх можна бяскарна прадаўжаць забаву. 16 верасня 1991 г. для жарту павыбівалі ўсе шыбы ў вокнах, іншым разам памалявалі іх чорнай і чырвонай фарбай. Спадарства Талуці жылі на першым паверсе. Тры гады таму пані Вера не стрымала гэтых жартаў і звярнулася ў паліцыю. Пасля пару тыдняў даследаванняў, пракурор даслаў звестку, што з увагі на малую шкоднасць учынку спыняе справу.

— Кожны раз, калі выходжу з хаты, — кажа спадарыня Талуць, — гавару: „Божа, спасі мяне, дазволь шчасліва вярнуцца дахаты". Цяжка палічыць колькі „кацапаў" паляцела ў мой адрас з боку разбэшчаных дзяцей нашых суседзяў, якія жывуць на іншых паверхах. Часта бывае так, што падпіты юнак яшчэ і аплюе. Не ведаю чаго іх там дома вучаць. Усе суседзі — гэта глыбакаверуючыя людзі.

У гэтым годзе спадарства Талуці не стрымалі і вырашылі памяняць кватэру. Знайшлі трошку меншую ў гэтым самым будынку, толькі ў іншым корпусе. Не паспелі аднак перанесці ўсю мэблю да каталіцкіх святаў. У панядзелак рыхтаваліся закончыць гэтую „аперацыю". Яшчэ перад абедам уварваўся ў кватэру і кінуўся на пенсіянерку з кулакамі нейкі Дарэк Р. Ледзь яго гаспадары выпхнулі за дзверы. Цераз гадзіну вярнуўся ён у большай кампаніі. Гэтым разам дзверы былі добра зачынены. На калідоры жулікі голасна крычалі: „Зараз выядзем гэтых кацапаў". Білі нагамі ў дзверы, але тыя не пускалі. Тады прынеслі нейкую цэглу і прадаўжалі забаву. Шэсць вялікіх дзіраў асталося пасля „велікодных гульняў" моладзі.

Усё гэта дзеялася ў белы дзень, у кожнай кватэры былі людзі. Пані Талуць выйшла на балкон і пачала крычаць: „Ратунку!". Ніхто не выглянуў, хаця крык пэўна было чуваць у суседнім будынку. Магчыма, што некаторыя баяліся. У канцы хтосьці злітаваўся і пазваніў у паліцыю. Аднаго жуліка злавілі, але той ужо на другі дзень з раніцы свабодна хадзіў па вуліцы.

— Як нам жыць? — пытаюцца спадарства Талуці. — Да каго з гэтым звяртацца? Пракурор, пэўна, зноў прышле пісьмо аб спыненні справы, бо ўчынак абвінавачаных быў малашкодным.

**(рэд.)**

# ГДАНЬСКАЯ АДНАДЗЁНКА

Надоечы паказаўся другі нумар „Звестак з Хаткі", аднадзёнкі беларусаў „з Трыгарада", выдадзенай у Гданьску з нагоды Свята 25 сакавіка.

У аднадзёнцы Анна Іванюк дзеліцца сваімі ўражаннямі ад І Кангрэсу беларусаў свету, памяшчаецца таксама хроніка, весткі з Беласточчыны, паведамленні і словы песні Макара Краўцова „Мы выйдзем шчыльнымі радамі".

„Звесткі з Хаткі" выдаюцца на правах бюлетэня Беларускага культурнага таварыства „Хатка". Рэдагуе іх калектыў: Лена Глагоўская, Анна Іванюк і Міхась Куптэль. Заўвагі, пісьмы ды інфармацыі рэдакцыя просіць дасылаць на адрас: Gdańsk 50, skr. poczt. 214 BTSK.

**А. Л.**



# ПЕРАДВЫБАРЧЫЯ КАМБІНАЦЫІ

Набліжаецца тэрмін самаўрадавых выбараў. У Бельску — як мы ўжо інфармавалі — завязалася з гэтай нагоды адмысловая кааліцыя: Беларускі камітэт, Саюз левых дэмакратаў, Саюз украінцаў Падляшша і Унія працы. Невядома, аднак, як сябры Бельскай кааліцыі падзеляцца выбарчымі акругамі. „Не можа так быць, каб усе атрымалі пароўну, — кажа Васіль Ляшчынскі з Беларускага выбарчага камітэта, — бо і кааліцыянты не роўныя. На сённяшні дзень мы маем у гарадской радзе восем чалавек, сацыял-дэмакраты — трох і ўкраінцы — аднаго. Мая прапанова такая, каб захаваць статус-кво. Дванаццаць акруг трэба падзяліць у такі спосаб, каб кожны ўдзельнік кааліцыі атрымаў столькі, колькі ў яго радных. А астатнія 16 акругаў (усяго — 28) — пароўну. Я думаю, што так будзе справядліва, з захаваннем пазіцыі кожнай сілы".

**ак**

*САКРАТЯНОВІЧ*

# МІНСК ПАД БЕЛАРУСКАЙ АКУПАЦЫЯЙ?

Здзяйсняецца праклён русіфікаванаму Мінску: **будзеш яшчэ плакаць і стагнаць, што трэба быць беларускай сталіцаю!** Мая, па-дзіцячаму наіўная, злосць на фашызуючых інтэрнацыяналістаў пад чырвонымі сцягамі была вынікам болей інтуіцыі, чымсьці рацыянальных разважанняў. Не можа гэтага быць, каб толькі беларусы захацелі ўшчэнт прапасці як нацыя! І ніхто наўкола.

Успамінаючы, за што даставалася мінулым часам, сённячы я са сваёй беларускасцю амаль здраднік яе на фоне наваяўленых суперпатрыётаў. Дзіва над дзівамі: нікому не ў галаве выганяць іх з работы на бясхлебіцу, як тады, праводзіць вобыскі ў кватэрах, арыштоўваць і дапытваць, таксама жанок і дзяцей нацыяналаў. Тадышняй парою за адно гаварэнне па-беларуску ставілі табе крыж на жыццёвай кар'еры. Праўда, некаторыя гаварылі рэгулярна і добра, жылі, аднак, але тыя, каму ўлады прызначылі такое заданне, пераважна сакрэтнае (свае сем'і яны ж клапатліва ахоўвалі ад павеваў беларушчыны). Гэта не былі беларусы, а *исполняющие обязанности белоруса*. Віцэ-беларусы.

І ў нас *było i jest od groma pełniących obowiązki Białorusina, takie sobie gówniarstwo.*

Мінск 25 сакавіка 1994 года, робячыся Менскам — гэта не той горад, дзесяты па велічыні ў Саюзе Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. Вяртаючыся рэйсавым аўтобусам у Беласток, я ўжо не ўбачыў расейскіх назваў сустрэчных вёсак, мястэчак ды гарадоў. І ў самой жа сталіцы спецыяльна нахадзіўся, каб упаткаць забытую шыльду з сярпом ды молатам на *общепонятном языке*. Як і ў нас, з'яўляецца хваля англамоўных рэклам, зразумелых не адным маскалям, а ўсяму свету. На выгляд зласлівае запытанне: ці ёсць беларускі народ? Адказ у караткевічаўскім стылі: быў, няма, будзе!

Беларусь уваходзіць у этап, так сказаць, трэцяй за сваю гісторыю доўгай акупацыі, менавіта беларускай пасля расейскай, а раней польскай. Абодва папярэднія рэжымы на працягу стагоддзяў знішчалі псіхалогію насельніцтва да ўзроўню псіхічнай хваробы шызафрэніі, польска-расейскай раздвоенасці ў трактоўцы нацыянальнае асобы. Мы найбольш ненармальны народ Еўропы. Людзі з шалянізнаю самаагіды!

Слухаючы па-сучаснаму ашаломных шчыра-беларусаў, ахоплівае мяне ваўкавыйны смутак. Яны вярэдзяць пра збройны чын і паўстанне, зусім не цямячы, што ў эвентуальную атаку пайшлі б самі сцяганосцы ды барабаншчыкі, якіх маскалі выстралялі б, як тых аленяў у чыстым полі. Ім чамусьці здаецца, што ўжо адбыўся цуд уваскрашэння мільёнаў паўнавартасных беларусцаў. А вось на гэту радасць мус перш напрацавацца гадоў так у два наступныя пакаленні, пад дату 2040. Таго вучыць нас адбудова заруселай у царызм Польшчы ці анямечаных некалі чэхаў. Не кажучы пра сялянскую Літву, у якой у 1920 г. усяго некалькі міністраў давала сабе рады сяк-так гергетаць, а літоўскамоўную сакратарку-каханку прывёз ім багаты эмігрант з Чыкага... Бо армію стварыў за нямецкія маркі для Коўні беларускі генерал Кандратовіч, той самы, якому не пашэнціла ў безграшовай Беларускай Народнай Рэспубліцы.

Кожны па-свойму ідзе да незалежнасці. Каб не паўтараць агорклых і прыкрых для нас банальнасцяў, клятая паслухмянасць нашага люду аказваецца выратавальнай ва ўмовах Рэспублікі Беларусь. Лічба расейскіх школ рэдукуецца да пятнаццаці працэнтаў, што адпавядае прыблізнай колькасці небеларусаў у дзяржаве, а пратэстаў не чуваць, нягледзячы на татальную адсутнасць беларускага слова ў пакуль савецкім натоўпе ад Гародні да Магілёва, і ад Полацка да Пінска. Ва універсітэтах ды інстытутах раптам адзін на двух выкладчыкаў лічыцца беларускага роду; так *Коммунистическая партия Советского Союза посодействовала расцвету белорусской науки и культуры*, што са свечкаю шукаць прафесара, якому яшчэ варочаецца язык па-беларуску. Аналагічна ў Беластоцкім краі, *dzięki właściwej polityce narodowościowej i twórczemu zastosowaniu marksizmu-leninizmu przez Polską Zjednoczoną Partię Robotniczą, oraz pełnej oddania postawie sprawdzonych towarzyszy* за паўвека Народнай Польшчы даволі пальцаў адных рук дзеля злічэння тых інтэлігентаў, якія ў стане напісаць кароткі абзац просценькага тэксту, не дапусціўшыся русізмаў з паланізмамі. Вось такія векапомныя дасягненні ардэнаносных змаганнікаў з буржуазным нацыяналізмам. Каб не закваліфікавацца ў тое пекла, *kto żyw a nie był kiep co sił spieprzał jak najdalej od białoruskosci.*

Паўстала фатальная праблема захавання беларускай нацыянальнай мяншыні: была, ёсць, а ці будзе? Інтэрнацыяналісты, што замаладыя, каб драпануць на пенсіі, бароннячы штатнага кавалка хлеба нацыяналізуюцца на мінскі манер. Інтэлігентнейшыя сярод іх плятуць пра аб'ектыўныя законы асіміляцыі ды знікнення... Калісьці гаварылі яны тое самае, але ў іншай інтэрпрэтацыі, менавіта, як пра перамаганне нацыянальных бар'ераў на шляху да сусветнага камунізму на расейскі капыл. Актуалізавалі мелодыю, але мэта ў іх тая ж: сыта пажыць, а пасля хоць і патоп!

Народ, вякамі ўзвычаены дэбільна жыць пад той або той акупацыямі, рэагуе па-сялянску прагматычна. Калісьці хітра абцалоўваў усенька польскае, потым кленчыў і адвешваў паклоны расейшчыне, а цяпер абалванела пазірае на самімі ж апляваную беларушчыну, якая без жартаў уз'елася стацца дзяржаўнаю. Ну, у чым яна не акупант, калі простанароддзю ўжо даўно ўсё роўна, каму падаткі плаціць, сыноў у армію здаваць, а дачок прастытуаваць за цёплы замуж, у абдымкі каланіяльнага лайдака?! *Колхозно-навозное племя!* — крычаў падпалкоўнік Расійскай Арміі, размешчанай пад Баранавічамі і Лідаю. Паказала тое Беларускае тэлебачанне, каментуючы са спуджанай сціпласцю, замест схапіць хама за морду, запатрабаваць: *Вон з Беларусі!*.

Мужык абачліва пакідае выпісваць постсавецкія газеты, заказваючы беларускія. Наклад „Советской Белоруссии" за лічаныя зімовыя месяцы ўпаў ці не ўтрая; абанкруціўся бальшавіцкі „Политический собеседник", што спачатку рабіў ашаламляльную кар'еру на антыбеларускім віску. Змяняецца акупацыя, зменіцца і мова акупаванае масы. Толькі пасля таго адродзіцца Беларускі Народ, і прыме Ён за сваю Беларускую Дзяржаву.

За роднамоўе ў брэжнеўскую эпоху выгналі мяне з тралейбуса на швагерчыну Серабранку; угрэлі па мухаедах прадстаўнікі рабочага класа з трактарнага завода; на паштамце не адправілі маю тэлеграму на *нечеловеческом языке* ў Маладзечна; баба ў магазіне *Овощи* не прадала мне яблык (*Уходи, деревенский дурак!*); у пашпартным стале міліцыі лейтэнант парваў маю беларускамоўную просьбу: *Коль не по-русски, так пишите уж лучше по-польски, разберёмся в этом языке дружественной страны....*

Тое ўсё, што было магчымае ў семдзесят чацвёртым, абсалютна немагчымае ў дзевяноста чацвёртым. Беларусізуйся, хоць ты сканай! Яшчэ і пазайздросцяць табе кабеты, хаця б у тым жа тралейбусе: *Вот мужчина, ах молодец! Вишь, какой* беларус! *Не то, что наше хамьё!...*

Беларуская акупацыя Беларусі найвідочная ў радыё і тэлепраграмах. Журналіст як экспанент улады пытае ў чалавека з вуліцы выключна на беларускай мове, прасцяк уважліва выслухоўвае і першую фразу адказу намагаецца фармуляваць словамі акупанта, аднак, хутка бракуе яму іх і з палёгкай шчабеча *словесамі*, да якіх прывучылі яго дабрадзеі ад *старшего брата, великого и могучего*.

Асобны кабарэ ў Вярхоўным Савеце, які пагадзіўся на калабарацыю з Рэспублікай Беларусь. У гэтай марыянетцы ўсяго невялікая меншасць рэпрэзентуе інтарэсы роднай дзяржавы. Але гэта не перашкода, паміма таго, што *русский дух, там Русью пахнет*. Ухваляе, што трэба. Праўда, енчыць пры гэтым жахліва, усё сумняваючыся ў Пагоні і смуткуючы па чорным двухгаловым арле Расійскай Федэрацыі (эміграваць туды якасьці не збіраюцца гэтыя, абяссіленыя ўжо, магільшчыкі беларускай самастойнасці; у Менску не такі голад). Масква пакарысталася *пятой колонной из товарищей* і вядзе супроць Беларусі ціхую эканамічную вайну. Расійскі амбасадар Сапрыкін у Менску пачувае сябе генерал-губернатарам. Здавалася б, хочуць анексіі... Ды не лыкам шытыя яны: Расея ўжо ўдосталь павазіла на сваім гарбе Беларусь плюс плойму цваных *советских народов* і мае навек даволі тае гульні, нацешылася, пабачыўшы, што нават тыя, каго разбіла ў другую сусветную, цяпер узвышаюцца багацеямі над савецкім лахманом. Хто тут напраўду выйграў тую вайну? Ці не японцы з немцамі ды італьянцамі?

У самой натуры дзяржаўных утварэнняў існуюць толькі два варыянты іх мацавання: палітычна-мілітарная экспансія або эканамічная. Іначай: аслабленне ўнутраных сілаў коштам пашырэння тэрыторыі або канцэнтрацыя на ўласным развіцці. Расея пашырылася, а не развівалася, яна матэрыяльна ўсё даганяла кагосьці, раўнялася, не апераджала (і ў ваенных тэхналогіях). Часы, калі на маскоўскім штыху трымалася яе веліч, адсоўваюцца і заходзяць. Праз малы момант падумалася мне, што закінуўшы прэч у гістарычнае барахло свае амбіцыі агрэсара чакае Расею *ослепительное будущее*, у параўнанні з якім эпізод камунізму бачыцца не больш, як захоп улады крымінальнымі элементамі з паўпісьменнай чэрні... Ды трэба браць пад увагу па-навальнічнаму імклівы тэхнічны прагрэс, які відавочным чынам элімінуе, напрыклад, нафту, жалезныя руды, вугаль, металы. Галавакружныя запасы мінералаў Расійскай Імперыі ў гады рэфарматара Сталыпіна выводзілі яе перад Амерыку з Нямеччынай. Так было і не вернецца. Апошнія Нобелеўскія прэміі ў навуцы і тэхніцы паказваюць, што натуральныя багацці немінуча страцяць прадукцыйны сэнс, значэнне.

Амерыканская цывілізацыя аддаляецца ад еўрапейскага кантыненту ў бок Пацыфіка. Пагроза для Масквы ўжо не на смаленскай дарозе, а на пагорках Маньчжурыі ды ў басейне Каспіі.

Ліквідаваць Беларускую Дзяржаву, каб насцярожыць саюзнікаў ад Буга па Ла-Манш? Нават Жырыноўскі маўчыць пра гэта, шумна акцэнтуючы аднычасна патрэбу скасавання Казахстана і рэшты тамашніх *станаў*, да самюткае Персіі, Кітая. Не цягнучы тэму, скажу адназначна: Рэспубліка Беларусь патрэбна ёй як паўкаланіяльны сатэліт. Вось чаму не можа быць яна звезена на могілкі народаў. Прасунуць межы Расійскай Федэрацыі ў Брэст, Гародню, Пярэмышль значыла б дапусціць смяротную памылку двух франтоў. Памылку палітычнага дурня, горай: ідыёта!

P. S. *Раздумваючы пра фармальна беларускі, а ў сапраўднасці расейскі Мінск, я не магу паўстрымацца ад аналогіі з маімі Крынкамі, якія дакладна паўвека назад былі толькі фармальна польскімі, а ў жыцці і ў мове быту беларускімі. І як ні мізэрнай уяўлялася Польская Народная Рэспубліка, па хатах кпілі з яе, а ўсё ж датла спаланізавала Крынкі, прапусціўшы пакаленні праз небеларускія школы, небеларускую адміністрацыю, небеларускія касы і банкі, небеларускія крамы і гасподы... Дзяржава ёсць дзяржава, як цэмент ёсць цэмент: нават слабы з часам цвярдзее і трымае.*

## З ДРУКУ

### ПЕРШ, ЧЫМ ВЫДАТКАВАЦЬ 4,5 ТРЫЛЬЁНА РУБЛЁЎ, РАСІЯ ХОЧА ПЕРАКАНАЦЦА ВА ЎЛАСНАЙ ВЫГАДЗЕ

Сёння ўжо відавочна: рэалізацыя „рублёвых" пагадненняў паміж Беларуссю і Расіяй тармозіцца расійскім бокам. Прычыны — вельмі празаічныя. Расійскія эканамісты падлічылі: далучэнне Беларусі да зоны расійскага рубля абыдзецца бюджэту Расійскай Федэрацыі ў 4,5 трыльёна рублёў — гэта амаль 10 працэнтаў бюджэтнага дэфіцыту Расіі. З іх 1,8 трыльёна павінна пайсці на субсідыі беларускай прамысловасці праз розніцу ў цэнах на энерганосьбіты, 1 трыльён — дзяржаўны крэдыт 1994 года, прадстаўляемы Мінску Масквой і 1,7 трыльёна — спецыяльны (наяўны) крэдыт для правядзення абмену грашовых знакаў, які пагашаецца толькі ў выпадку выхаду Беларусі з рублёвай зоны.

У беларускай прэсе шмат пішуць аб узаемавыгаднасці рублёвага саюза — у прыватнасці, аб тым, што ў выніку аб'яднання адновяцца ранейшыя гаспадарчыя сувязі, з'явіцца магчымасць захаваць узаемазвязаныя вытворчасці ў абедзвюх краінах. Многія расійскія эксперты скептычна ставяцца да гэтых сцвярджэнняў. Для прыкладу, Аляксандр Бекер у маскоўскай газеце „Сегодня" так ацэньвае падобныя перспектывы: „Аднаўленне гаспадарчых сувязей і рост аб'ёмаў вытворчасці — ёсць, па сутнасці, аднаўленне ўстарэлых тэхналагічных цыклаў і вытворчасць неканкурэнтнай на сусветным рынку прадукцыі. Што датычыць геапалітычнага выйгрышу Расіі, то ён ужо ў бліжэйшы час можа расчараваць расійскае кіраўніцтва. Ход маскоўскіх перамоў паказвае, што Беларусь не настроена развітвацца з важнымі атрыбутамі нацыянальнага суверэнітэту — уласным бюджэтам, нацыянальным банкам..."

Уплывовыя колы ў Расіі, — прычым як у акружэнні прэзідэнта, так і сярод апазіцыі, — занепакоены тым, што геапалітычны выйгрыш, на які яны разлічваюць, можа абярнуцца марнай стратай мільярдаў. „Расія замест чакаемай федэрацыі ці канфедэрацыі з Белай Руссю можа застацца пры пікавым інтарэсе, — заўважае той жа Аляксандр Бекер. — А суседзі дзейнічаюць па прынцыпу — раніцай грошы — вечарам крэслы. Пры гэтым маючы ў намерах — пакінуць за сабой і крэслы".

Пры ўсёй цяперашняй няпэўнасці сітуацыі — перагаворы па „рублёвай" праблеме паміж Масквой і Мінскам усё ж працягваюцца, і даволі актыўна. Беларускі бок, натуральна, праяўляе ў гэтай справе большую ініцыятыву і зацікаўленасць. Ідэю „рублёвай" уніі хаваць рана — хоць пра яе ў апошні час гавораць і пішуць у асноўным як пра справу марную. Беларускае кіраўніцтва, зрабіўшы правільную выснову з нядаўняга вопыту гучных няспраўджаных абяцанняў, стараецца пазбягаць усякіх заяў наконт гэтага, працягваючы мэтанакіраваную працу ў ранейшым напрамку. Далейшы ход „рублёвага" сцэнарыя будзе разгортвацца, хутчэй за ўсё, без афішавання. Вынік можа быць дасягнуты і абнародаваны ў любы час.

**ВАЛЯНЦІН ЖДАНКО,**
*(„Звязда" н-р 50)*

# БЕЛАРУСЬ НА ЎРОКАХ ГЕАГРАФІІ

## XI. Насельніцтва

У Рэспубліцы Беларусь жыве 10,3 млн. чалавек. Натуральны прырост насельніцтва ў апошнія гады не большы як 6 праміле (0,6%, у Польшчы ў 1993 г.: 0,2%). Штогод колькасць насельніцтва рэспублікі павялічваецца на 65—70 тыс. чалавек. Міграцыйныя працэсы — прыезд і выезд у іншыя рэспублікі СНД або ў іншыя краіны — істотнага ўплыву на змяненне колькасці грамадзян не робяць, а сальда міграцыі набліжаецца да нейтральнага (колькасць прыбыўшых і выбыўшых прыкладна аднолькавая).

Сярэдняя шчыльнасць насельніцтва складае каля 50 чалавек на 1 км$^2$ (у Польшчы — 121/км$^2$, у беластоцкім ваяводстве — 68/км$^2$). У цэнтральнай частцы яна месцамі перавышае 70 чалавек на 1 км$^2$. На захадзе Гомельскай і поўначы Віцебскай абласцей шчыльнасць насельніцтва зніжаецца месцамі да 10—15 чалавек на 1 км$^2$.

Па ўсесаюзным перапісе насельніцтва ў 1989 г. беларусы складаюць 77,9% агульнай колькасці жыхароў рэспублікі, рускія — 11,7%, палякі — 4,3%, украінцы — 2,5%, яўрэі — 1,5%, іншыя — 0,5% (літоўцы, татары, латышы, армяне, чувашы, малдаване).

Сярод народаў, якія жывуць у СНД, беларусы па колькасці знаходзяцца на чацвёртым месцы пасля рускіх, украінцаў і ўзбекаў. Агульная колькасць беларусаў у межах былога СССР складае больш за 10 млн. чалавек. Значыць, 2 млн. беларусаў жывуць у іншых рэспубліках: у Расіі, Украіне, Казахстане. На тэрыторыі Расіі звыш 1 млн. беларусаў, у тым ліку у Маскве — 60 тыс., Пецярбургу — 80 тыс., Заходняй і Усходняй Сібіры — 200 тыс. Каля 400 тыс. беларусаў жывуць на Украіне, 200 тыс. — у Казахстане, 120 тыс. — у Латвіі, 63 тыс. — у Літве (асабліва на Віленшчыне), 25 тыс. — у Эстоніі. Больш як 200 тыс. карэннага беларускага насельніцтва жыве ў Польшчы на Беласточчыне. Выхадцы з Беларусі ёсць таксама ў ЗША, Канадзе, Вялікабрытаніі, Аўстраліі, Аргенціне і Нямеччыне.

З навейшых даных вынікае, што ў Беларусі 72,2% праваслаўных (каля 7 млн.), рымскіх каталікоў — 6% (600—700 тыс.), уніятаў — 1,1%, пратэстантаў — 1,1%, яўрэяў — 0,2%. Атэісты з іншымі рэлігійнымі групоўкамі складаюць 19,4% насельніцтва.

Большасць насельніцтва краіны, асабліва ў гарадах, размаўляе зараз на рускай мове. 1 верасня 1990 г. уступіў у сілу закон, адпаведна якому дзяржаўнай мовай Беларусі з'яўляецца беларуская мова. Абавязкам суверэннай беларускай дзяржавы з'яўляецца ахова і абарона нацыянальнага інтарэсу беларускага народа.

Узровень урбанізацыі Беларусі сёння высокі — сягае 65,4%. Яшчэ ў 1950 г. у гарадах жыло толькі 24% насельніцтва, а ў 1979 г. — ужо 43%. Высокія тэмпы індустрыяльнага развіцця Беларусі, павышэнне прадукцыйнасці працы ў сельскай гаспадарцы на базе яе механізацыі абумовілі адток жыхароў з сельскіх мясцовасцей у гарады. Гэтым тлумачыцца хуткі рост гарадскога насельніцтва і павышэнне яго долі ў агульнай колькасці. Асабліва інтэнсіўна гэтыя працэсы працякалі на працягу 1965—1975 г.г. У сельскіх паселішчах мала засталося моладзі, пераважаюць асобы старэйшага працаздольнага і пенсіённага ўзросту. Таму і адмоўны натуральны прырост насельніцтва (-2 да -3 прам.). Некаторыя калгасы і саўгасы, перш за ўсё ўсходніх абласцей, адчуваюць недахоп працоўных рэсурсаў.

На тэрыторыі Беларусі ў цяперашні час 99 гарадоў і 112 пасёлкаў гарадскога тыпу. Да ліку старажытных гарадоў адносяцца Полацк, Менск, Віцебск, Брэст, Орша, Заслаўе. Яны ўзніклі ў IX—XI ст.ст. як рамесна-гандлёвыя і культурныя цэнтры. У той жа час гарады Жодзіна, Наваполацк, Салігорск, Светлагорск, Белаазерск, Новалукомль з'явіліся на карце рэспублікі ўсяго 25—30 гадоў назад у сувязі з буйнымі прамысловымі новабудоўлямі.

У рэспубліцы налічваецца звыш 25 тыс. сельскіх паселішч. У сярэднім на кожны сельскі населены пункт прыпадае 140 жыхароў. Сярэдні па рэспубліцы паказчык гушчыні — 12 сельскіх паселішч на 100 км$^2$ тэрыторыі. У напрамку з поўначы на поўдзень узрастае велічыня па колькасці жыхароў і памяншаецца іх гушчыня. На поўначы рэспублікі пераважаюць невялікія паселішчы, параўнальна недалёка размешчаныя адно ад другога. Наадварот, на поўдні, у беларускім Палессі, сельскія паселішчы значна большых памераў, аднак размешчаны яны радзей.

**Ю. БАЕНА**

*ДЗМІТРЫЙ ШАТЫЛОВІЧ*

# ПАСЛЯ ВЫЗВАЛЕННЯ

## Эпілог

Апынуўшыся ў радах Савецкай Арміі, я ў душы шкадаваў, што дабравольна пайшоў на допыт. Мне здавалася, што маіх сяброў пасля прымусовага допыту адпусцілі дамоў.

У арміі я не атрымаў ніводнага ліста, хаця сам пісаў часта. Не меў я вестак з Чаромхі дзесьці ўжо з чэрвеня 1944 г. Пасля аказалася, што лісты ад мяне траплялі ў Чаромху праз чатыры-пяць месяцаў. А маё месцазнаходжанне мянялася часта і заадно мянялася палявая пошта.

Каля 15 красавіка наш ваенны шпіталь пераехаў з Зээбурга ў Вейляў, у бок Кёнігсберга. Я далей працаваў санітарам. У пачатку мая сталі ліквідаваць шпіталь і нас, салдат, перавялі ў запасны полк у Ольштын, дзе я і дачакаўся канца вайны. Пасля месячнага абучэння мяне як сяржанта адаслалі ў ваенную падсобную гаспадарку, якая размяшчалася чатыры кіламетры за горадам. Там я прабыў да кастрычніка, а пасля ўсіх нас перавезлі ў вёску пад Бабруйскам і перавялі мяне ў аўтабатальён. Там мяне навучылі выдаваць нарады на рамонт аўтамашын і аўтобусаў, але працаваў я нядоўга. Дзякуючы знаёмствам і пры дапамозе лекараў 31 снежня 1945 года мяне дэмабілізавалі. Вяртаўся я дадому цераз Гомель і Брэст. Пасля праверкі ў Высокім, цягнік прыехаў у Чаромху ноччу на праваслаўныя Каляды. Вядома, ніхто мяне дома не спадзяваўся.

Ужо дома я даведаўся, што ў ліпені 1944 г. у Чаромсе-вёсцы праходзілі моцныя баі і амаль поўнасцю вёска згарэла. У нас згарэла толькі пуня, а дом і хлявы засталіся. Не сустрэў я ўжо бацькі. Памёр ён ад раны, якую атрымаў падчас баёў. Даведаўся я таксама, што толькі некаторыя з вывезеных у Прусію вярнуліся на радзіму. І гэта мяне здзівіла.

Адразу паехаў я ў Бельск-Падляшскі і там мяне прынялі ў 3/4 клас беларускай гімназіі. У чэрвені 1946 г. я атрымаў малую матуру. Пасля польскія ўлады закрылі беларускі ліцэй і гімназію і паступіў я ў польскі ліцэй імя Тадэуша Касцюшкі ў тым жа Бельску.

Летам 1946 г. я даведаўся, што з Нямеччыны вярнуліся Лора і Каця з Кляшчэляў. Пасля вызвалення іх узялі на працу ў вайсковую падсобную гаспадарку. Разам з імі працавалі Вера з Насцяй — яны таксама вярнуліся дамоў — і Лідка, але яна потым адышла ад іх і яны нічога не ведалі аб яе далейшым лёсе. Дзяўчаты расказалі мне таксама пра трагедыю ўкраінца Вані і Марыі, якіх невядома па якіх прычынах расстралялі рускія салдаты.

Я выслаў ліст на хатні адрас Лідкі, але адказу не дачакаўся. Але адпісаў мне бацька Валянціна, які паведаміў, што нічога не ведае пра лёс сына. А я быў амаль упэўнены, што ён ужо дома.

Улетку 1946 г. вярнуўся кравец Андрэй Унучка са станцыі Чаромха. Ён працаваў у горадзе Гутштат (цяпер Добрэ Място) у дваццаці кіламетрах ад Гайльсберга. Ад яго пачуў я жахлівы расказ пра тое, што перажыў ён пасля вызвалення. Усіх прымусовых рабочых рускія забралі са зборнага пункту і пагналі пехатою ў напрамку Ломжы, а там, на нейкай чыгуначнай станцыі пагрузілі іх у таварныя вагоны і везлі зімой цягніком на ўсход амаль месяц у лагер пад Куйбышавам. Па дарозе ў Ломжу тых, хто адставаў і не меў сілы ісці далей — расстрэльвалі. У цягніку многія хварэлі тыфам і амаль на кожнай станцыі салдаты выкідалі з вагонаў трупы. Умовы ў лагеры былі вельмі цяжкія і многія там загінулі. Загінуў там таксама мой дваюрадны брат Іван сын Дарафея. Андрэй у лагеры працаваў краўцом і таму не галадаў так моцна, як іншыя. Пасля праверкі яго адпусцілі дамоў. Але ў Высокім не хацелі яго прапусціць далей на захад і толькі пад вагонам цягніка ўдалося яму пераехаць граніцу паміж Польшчай і СССР. Пасля ягонага расказу я меркаваў, што Валянцін таксама мог папасці ў лагер пад Куйбышавам.

У маі 1948 года я закончыў ліцэй, атрымаў матуру і паехаў здаваць экзамены ў Політэхнічны інстытут у Гданьск. У цягніку Беласток—Гданьск я сустрэў Лідку. Яна пазнала мяне і расказала, што ў яе ёсць муж і двухгадовы сын. Падарожнічалі яны ўсёй сям'ёй. Муж быў апрануты ў міліцэйскую форму і, відаць, не вельмі быў задаволены гэтай сустрэчай. Лідка дала мне свой адрас у Барташыцах і запрашала наведаць яе. Яны выселі па дарозе. Я з Лідкай міла развітаўся і адчуў, што гэта было нашае апошняе спатканне.

Экзамены прайшлі паспяхова (я апынуўся на другім месцы), але ў верасні 1948 года паведамілі, што мяне напраўляюць на вучобу ў СССР. Забраў я з Гданьска дакументы і паехаў у Варшаву, адкуль нашу групу з васемнаццаці студэнтаў накіравалі спачатку ў Маскву, а потым у Ленінград. З Ленінграда я напісаў Лідцы пісьмо, але адказу не атрымаў. Ад таго часу не ведаю, дзе яна жыве і як склаўся яе далейшы лёс.

У 1950 годзе мы са знаёмай паехалі падчас канікулаў у Гайльсберг і зайшлі ў Памэйрэн. У доме майго баўэра жыла польская сям'я. Ад іх я даведаўся, што баўэр Шпанэнкрэбс і яго сястра з зяцем пахаваны ў садзе ля дома. Паралі яны мне пайсці да немкі Р., якой мужа таксама рускія расстралялі. Жанчына сустрэла нас ветліва, дала вячэру і пераначавала. Расказала яна нам, што рускія недзе вывозілі маладых немцаў, мабыць, пад Куйбышаў. Прыйшлі яны па 12-гадовага Бруна, сына і сястрыну дачку. Баўэр і ягоная сястра пратэставалі, не хацелі аддаваць сваіх дзяцей і тады вывелі іх у сад і расстралялі. Дзяцей і так забралі.

У 1952 годзе адрас Валянціна даў мне ягоны бацька. Напісаў я яму з Ленінграда і атрымаў адказ. Застаўся ён жыць ля Куйбышава, ажаніўся там з рускай дзяўчынай, нарадзілася яму двое дзяцей. Працаваў Валянцін пры здабычы нафты і атрымоўваў адносна добрую зарплату. Прыслаў ён мне таксама здымак жонкі і дзяцей. Быў гэта час сталіншчыны і Валянцін не хацеў мне пісаць падрабязнасцей гісторыі сваёй і сяброў. Мы перапісваліся недзе да 1954 года, а потым наш кантакт спыніўся і не ведаю цяпер, дзе Валянцін жыве.

Антона Кердалевіча з вёскі Чаромха я сустрэў калісьці ў Брэсце, калі вяртаўся на канікулы дамоў. Быў ён тады з групай маіх знаёмых з вёскі, якія ў якасці рэпатрыянтаў пераехалі ў СССР. Мне было няёмка пытацца пры іх пра яго лёс пасля вызвалення і часу было малавата. Ведаю толькі, што калі яго адпусцілі з лагера, то ў Высокім яго не прапусцілі ў Польшчу і ён застаўся жыць у Брэсце, дзе потым і памёр.

Не даведаўся я ніколі, што здарылася з Пэтэрам, а Косця быццам бы вярнуўся дамоў, хаця я ў гэтым няўпэўнены.

# ДРУГІ ДОМ

☛ *Працяг са стар. 1*

ад таго, што забяспечваем навучанне тутэйшым дзецям. Бацькі гэта дацэньваюць і ўсяляк школе дапамагаюць. У мінулым годзе купілі дровы, самі іх загатаўлялі і прывезлі з лесу. Малявалі агароджу вакол школы. А ў сярэдзіне, то ўжо мы самі стараемся трымаць парадак".

У Дубяжыне важнае месца адводзіцца навучанню беларускай мовы. Урокі вядзе пані **Яўгенія Таранта**, якая апрача беларускай філалогіі, скончыла яшчэ завочна і геаграфію (пасля дыплома). Не ўсе дзеці ходзяць на ўрокі, але вырашальны голас за бацькамі, а нахабнай прапаганды ніхто не хоча там весці. Што іншае, прыцягнуць дзіця цікавымі заняткамі, захапіць яго на ўроку, садзейнічаць таму, каб палюбіла яно гэты прадмет. І гэта, відаць, пані Яўгенія ўдаецца, бо на заняткі прыходзяць нават тыя, каго бацькі запісаць на беларускую мову не хацелі. Пра працу педагога сведчаць таксама добра падрыхтаваны вучні падчас беларускіх дэкламатарскіх конкурсаў.



*Удзельнікі беларускіх дэкламатарскіх конкурсаў: Кася Тамчук, Пётр Бандарук, Ася Тамчук і Марэк Тамчук з настаўніцай Яўгеніяй Тарантай.*

Пані дырэктар Надзея Аврчук водзіць мяне па школе, паказваючы кожны закутак, адчуваецца сапраўдны гаспадарскі падыход. Як сама яна кажа, дырэктар павінен быць у школе першым і пакідаць яе апошнім. Відаць, таксама, якія блізкія і непасрэдныя адносіны між вучнямі і настаўнікамі — увесь час хтосьці падбягае, пра штосьці пытае, чагосьці просіць. А на вялікім перапынку супольнае гатаванне гарбаты. Зусім інакш смакуюць падрыхтаваныя мамамі бутэрброды ў кампаніі. Гэты просты і танны спосаб арганізацыі харчавання можна параіць усім школам, у якіх няма магчымасці падрыхтоўкі ці давозу абеду.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**
**Фота аўтара**

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Старажытныя рамёствы Беларусі

## КАРЭЛІЦКІЯ ШПАЛЕРЫ

Невялікі, сёння мала чым адметны гарадок на Гродзеншчыне назаўсёды ўвайшоў у гісторыю мастацтва тым, што тут у другой палове XVIII — першай палове XIX стагоддзяў працавала славутая ткацкая мануфактура Радзівілаў. Выраблялі палатно для абіўкі сцен, паясы, абрусы, але найбольшую вядомасць мануфактуры прынеслі насценныя бязворсавыя дываны (шпалеры). Ткалі іх у складанай габеленавай тэхніцы на спецыяльных ручных станках. Кардоны па матывах карцін тагачасных заходнееўрапейскіх мастакоў выконвалі прыдворныя майстры Скажыцкі, Юзаф і Рудольф Гескія. Выканаўцамі былі мясцовыя ткачыхі.

На Карэліцкай мануфактуры была выткана цэлая серыя шпалераў, якая, па задуме ўладальнікаў, павінна была праславіць ваенныя подзвігі роду Радзівілаў. Да нашага часу дайшло толькі некалькі работ з гэтай серыі: „Парад войскаў пад Заблудавам", „Імператар Карл V надае Радзівілам княжацкі тытул", „Бітва пад Славечнай", „Узяцце ў палон Станіслава Міхала Крычэўскага пад Лоевам у 1649 годзе". Складаныя па кампазіцыі, з вялікай колькасцю фігур, шпалеры ўражваюць надзвычай высокім майстэрствам выканання.

На радзівілаўскіх мануфактурах ткалі таксама кілімы і ворсавыя дываны. Як правіла, кампазіцыя іх мела арнаментальны характар: кошыкі з кветкамі, вазоны, раскіданыя па полі букеты і інш. Аднак дарагая ручная вытворчасць іх была нерэнтабельнай, і ў першай палове XIX стагоддзя мануфактура закрылася, пакінуўшы нешматлікія, але надзвычай каштоўныя, высокамастацкія творы ткацкага рамяства.

ЯЎГЕН САХУТА



*Алік з Бельска.* Фота М. Ваўранюка

*ІВАН ГАЛУБОВІЧ*

## ЖЫЦЬ — ЯК НАБЯЖЫЦЬ

У старым глухім лесе жыла-была маленькая мышка-буразубка. Ні хаткі сваёй у буразубкі, ні сяброў. Хатку будаваць — ахвоты не было. Сяброў займець — гонар не дазваляў. Лічыла сябе буразубка самай разумнай і прыгожай у лесе. І сапраўды: поўсць у буразубкі кароценькая, аксамітная, брушка ў яе шаравата-белае, а галоўка з рухомым гнуткім хабатком.

Гонар буразубка мела, а жыла як прыйдзецца. За гэта і празвалі яе — Жыць — як набяжыць.

Аднойчы бяжыць буразубка па лесе і бачыць: сядзіць вавёрка на елцы і нанізвае апенькі на сучок.

— Што ты робіш, вавёрка? — пытаецца.

— А хіба ты не бачыш, Жыць — як набяжыць? Грыбы сушу. Хто працуе, той і мае. Трэба ўлетку папрацаваць, каб узімку было што жаваць.

— Во, надумалася! Свой час — ягадзе, свой час — баравічку. Калі яшчэ тая зіма будзе?

Сказала так буразубка, матлянула хвосцікам і далей пабегла.

Сустрэў буразубку ля сваёй хаткі барсук, паклаў на зямлю вязку чаромхавых галінак і гаворыць ёй:

— Дапамажы мне, Жыць — як набяжыць, кватэру да зімы падрыхтаваць. Стары я ўжо стаў, цяжка аднаму з работай справіцца.

— Ха, ха, ха, — засмяялася буразубка. — Во, чаго захацеў! Дзе тая зіма?

— Не смейся, Жыць — як набяжыць. Пад ляжачы камень вада не цячэ.

Згадзілася буразубка дапамагчы барсуку. Узяла галінку чаромхі, паднесла да дзвярэй хаткі і кінула. Гультай за работу — мазоль за рукі.

— Не ўмею я нічога рабіць дый рукі не хачу паганіць аб тваю работу. Вунь янотпаласкун ніколі сваё дупло не рамантуе і жыве. І я таксама, як бачыш, не прапала, — са злосцю прабубніла буразубка.

— Кожнаму сваё, — сказаў барсук. — Толькі запомні, Жыць — як набяжыць, што праца яшчэ ніколі нікога не паганіла. Яна корміць нас, поіць і жыць вучыць. А чужым розумам не пражывеш, калі свайго не маеш.

Зазлавалася буразубка на барсука і хутчэй ад яго хаткі пабегла. Нават з гаспадаром не развіталася. Напаткала яна вожыка і пытае ў яго:

— Што робіш, вожык?

— Да зімы рыхтуюся, Жыць — як набяжыць.

— Дык яна ж яшчэ не скора.

— З адкладу няма ладу.

Сказаў так вожык буразубцы і зноў узяўся за работу.

Пабегла буразубка далей і сустрэла на сваім шляху яшчарку. Убачыла буразубка, што тая корпаецца, шчыруе ля сваёй нары і пытае ў яе:

— Што ты тут шукаеш, яшчарка?

— Не шукаю, а нару аглядаю. Да зімы рыхтуюся. Жывы пра жывое думае, — адказала буразубцы яшчарка.

Выгнула хабаток буразубка, матлянула доўгім хвосцікам і далей пабегла.

Усё жывое ў лесе да зімы рыхтавалася. Толькі адной буразубцы, гультаю ды няўмецы, на гэта часу не хапала. А між тым хутка і зіма прыйшла. Падзьмулі сіверныя вятры. Разгуляліся і намялі цэлыя гурбы снегу мяцеліцы. Ударылі такія моцныя маразы, што і дыхнуць цяжка. Сядзіць Жыць — як набяжыць пад ядлоўцавым кустом і ад холаду калоціцца. Прамучылася так ноч буразубка, а пад раніцу і зусім зледзянела.

## А І Б ІГРАЛІ НА ТРУБЕ

Аднойчы з азбукі Антося адарваліся А і Б.

Барбос брахаў, біў у бубен аб бядзе.

Антось адмовіўся ад абеду, абуўся, апрануўся.

Барбос бегаў за біноклем.

Шукаць **А** і **Б** Антось і Барбос адправіліся ў Афрыку.

Антось — на асле. Барбос — на бабры.

Ах, Афрыка! Антось аб'еўся ананасамі, а Барбос — бананамі.

**А** і **Б** не адшукалі.

У адчаі на аблачынцы аб'яву адправілі: „Хто бачыў **А** і **Б**?"

Акіян аглядаюць акулы.

Балоты баламуцяць бегемоты.

Бусел, бусліха, бусляняты буслянку аглядаюць.

Алень акуратна алешнік азірае.

Барадаты баравік у бары блукае.

Антось на асле астравы аб'язджае.

Барбос на бабры берагі аплывае.

А тым часам **А** і **Б** ігралі ў аркестры на трубе!

**А** — а́кала, а **Б** — бэ́кала.

УЛАДЗІМІР ЛІПСКІ

*УЛАДЗІМІР МАЦВЕЕНКА*

### ЗАГАДКІ-РЫФМАВАНКІ

1
Глянь!
Пілуе дрэва
Шпарка.
Хто такая?
Цыркулярка.
Пілавіння
Намяла
Электрычная
П... .

2
А чаму й не пахваліцца!
Кожны цвік яго баіцца.
Тук ды тук,
Ток-ток, ток-ток, —
Стукнуў, грукнуў
М...... .

3
Мы спачатку трошкі
Пагаблюем дошкі
І заўём габлюшку
У залатую стружку.
Пабудуем
Новы ганак —
Весела сказаў
Ф....... .

4
Трапіў цвік
У цвёрды сук —
Цвік уміг
Сагнуўся ў крук.
Пацягнулі
Раз, другі...
Не! Патрэбны
Аб..... .

5
Як гарбаты
Захачу,
Хуценька
Яго ўключу.
Не капціць ён,
Не дыміць,
Вельмі хутка
Закіпіць.
З краніка
Пальцецца вар,
Нас напоіць
С....... .

6
Футра рыжае надзела
І ў люстэрка паглядзела:
— Гэта што за прыгажуня?
Адгадайце. Не скажу я!
Не спаймаць,
Не ўбачыць зблізку...
Бо палюе ціха
Л..... .

7
Над зямлёю
Яно ходзіць
І вачэй
З зямлі
Не зводзіць.
Яно ў небе —
Заўважай! —
Будзе добры
Ураджай.
Яно любіць
Новы дом,
У якім
Мы ўсе жывём.
Вось і сёння
У аконца
Зазірнула
Ранкам с..... .

8
Залацістая галоўка
Выціскае слёзы лоўка.
Хто
Галоўку пакаштуе,
Той
Слязы не пашкадуе.
Слёзкі
Выцерла бабуля
І сказала:
— То ж ц...... .

9
Мы на полі
Яе бралі,
Потым з Поляй
Перабралі.
Шынкавалі
Ночкай,
Трамбавалі
У бочку.
Будзе ўсім
Да густу,
Любім мы
К....... .

# ПАДАРОЖЖА ПА МОВАЗНАВІІ

*(працяг з папярэдняга нумара)*

## 23

### Маскарад літар

Як дапамагчы літарам замаскіравацца, так і пазнаць іх потым пад маскаю павінны мы з вамі. Спачатку знойдзем такія словы, у якія могуць стаць замаскіраваныя літары. Гэта можна зрабіць шляхам конкурсу, як у папярэдняй гульні; затым, запісаўшы такія словы і словазлучэнні на карткі, будзем „здымаць маскі".

Вядучы чытае слова *ношка*. Што яно значыць? Ці гэта тая ношка, якую носяць, ці — маленькая *нага*? Падабраўшы адпаведны кантэкст (яго можна прыдумаць, а можна і скарыстаць тое, што завучана на памяць), вы ўпэўніцеся, што пры напісанні гэта звычайныя словы, а пры вымаўленні адно з іх мае замаскіраваную літару, якая гучыць так, што можа змяніць значэнне слова. Гэта амафоны.

### Амафоны

Чым больш амафонаў набярэцца ў вашу агульную скарбонку, тым хутчэй з'явіцца магчымасць заняцца гульнёю „Лато амафонаў".

Раздаюцца карткі, на кожнай — слова (словазлучэнне) і яго тлумачэнне. Лепш, калі будзе па некалькі картак у кожнага. У вядучага таксама карткі, але маленькія, з адным толькі словам. Ён выцягвае іх па адной і чытае слова — напрыклад, *гот*. Два ўдзельнікі павінны сказаць: „У мяне". Гэта значыць, што на картцы ў аднаго напісана: 'прадстаўнік старажытнага племені готаў у Заходняй Еўропе'; у другога — 'мера часу', і ён, прачытаўшы голасна тлумачэнне, дадае: пішацца праз *д* (год, праверачныя словы — *гадок, гады, гадавы*).

Амафоны сустракаюцца сярод розных часцін мовы: *род — рот, на пяць — напяць, медзь — мець, каска — казка, па тры — патры* і г.д. На сугуччы такіх слоў складаюцца вершы-каламбуры, напрыклад:

*Напісаў на дошцы*
*Літар я* **са тры,**
*Ды сказаў дзяжурны:*
*— Літары* **сатры!**

Іх можна скарыстаць для праверачнай дыктоўкі:

*Узняўся месяц, а* **(за тым)**
*Ён знік за воблакам* **(за тым).**

Яны карысныя для практыкаванняў па арфаэпіі:

*Я зразумець ніяк не* **мог:**
*Якога колеру тут* **мох?**

### Амаформы

Сустрэліся суседзі, адзін пытае ў другога:

— Тры арэхі — колькі ядраў будзе?

— Тры ядры і будзе. Калі, вядома, арэхі не пустыя...

— А калі цябе церці — таксама з аднаго цябе тры такіх будзе? Арэхі не церці, а біць трэба.

Гэты даўні жарт заснаваны на супадзенні форм лічэбніка і дзеяслова.

Вось яшчэ амаформы:

*сустрэліся* **раніцай** (уранні) *і любаваліся* **раніцай** (раннем); сарваў *ліпкі* (ліпучы) *лісток з маладзенькай* **ліпкі** (дрэва); трэба **паліць** (палівацъ) *кветкі, а тады* **паліць** (запаліць) *у печы*; **лячу** (вылятаю) *да хворага, якога цяпер* **лячу** (ратую ад хваробы).

Шукайце ў літаратуры, слухайце ў жывой гаворцы амаформы і амафоны, запісвайце — на гэтай аснове можна складаць цікавыя гульні-жарты.

*(працяг у наступным нумары)*

*Давід Дубец быў наймалодшым удзельнікам Фестывалю „Беларуская песня'94", выступаў з мамай Аляй і бабуляй Любай.*

## Так называлі прашчуры

### КЛЮЧЫКІ

Нашы прашчуры шмат якія расліны выкарыстоўвалі ў абрадах. Прыкладам, вярба нават дала назву святу — Вербнай нядзелі. З уяўленнем пра паганскага бога Ярылу, бога ўрадлівасці і плоднасці, які пазней увасобіўся ў святога Юр'я, „божага ключніка", што „зямлю адмыкае", звязана імя расліны, навуковая назва якой — *прымула афіцыналіс*. Прымула — ад лацінскіх слоў *прымус* — першы, *афіцыналіс* — лекавы. Як бачыце, самая звычайная назва. А раслінка прыгожая, вабная, да таго ж расцвітае адначасова з першымі кволымі лісткамі травы. Яе жоўтыя кветкі, сабраныя ў суквецце на бязлістай сцяблінцы, нагадваюць пук ключоў. Так іх і назвалі — *ключыкі*. У гэтай назве асабліва выразна ўвасобілася вобразнае, паэтычнае мысленне нашых продкаў. Ключыкі не проста расцвітаюць першымі — яны адмыкаюць зямлю, выпускаюць траву.

### КУРАСЛЕП

Увесну нашы лясы і гаі ўсланы суцэльным зялёным дыванам, на якім свецяцца белыя кветкі. Калі ж вы паклоніцеся гэтаму цуду, то ўбачыце раслінку з цудоўнай, дасканалай формай лісця і кветкі. Шкада, што мастакі не заўважаюць такой прыгажосці. Ды і людзі назвалі расліну неяк абразліва — *курослеп*. Але гэта невыпадкова — расліна атрутная і жывёла яе не есць. Вучоныя знайшлі ў ёй рэчыва, якое пагаршае зрок. Таму ў некаторых мясцінах курослеп называюць *слепетам, казадростам, канапелькай, курапатамі*, ад чаго ўзнікла і назва ўрочышча за былой вёскай Зялёны Луг. Навуцы гэтая расліна вядомая пад імем *анемона нямароза* (ад грэчаскіх слоў *анемос* — „вецер" і *нямароза* — „дуброўная").

**ЗДЗІСЛАЎ СІЦЬКО**

*МАР'ЯН ДУКСА*

### ВЯСЕННІ ДОЖДЖ

Дождждык,
уніз упадзі з вышыні,
дрэвы і лаўкі
хутчэй спаласні.
Дождждык,
пасыпся з вясёлкавай хмары,
каб заблішчэлі
усе тратуары.
Дождждык,
ідзі, паспяшайся хутчэй —
стане пупышкам
дыхаць лягчэй.
Дзюбку наставіў
шпак на вярбе —
ён жа таксама
чакае цябе.

### РУНЬ

Яна з-пад снегу выйшла,
да сонейка вярнулася.
І ажыла.
Увішна
ад ветру варухнулася.
Зірнула
ў неба смела —
на сонейка высокае.
І ўміг зазелянела
і налілася сокамі.
Хай ранак і халодны,
трава
з зямлі не вылезла —
яна ж
за дзень лагодны
на пайдалоні вырасла.
Над ёй
жаўрук званчэй
спявае пад нябёсамі.
Ёй хочацца хутчэй
зашамацець калоссямі.

### ПАСЛЯ СНЕГУ

Пасля снегу
лёгка бегаць,
ногі нельга
супыніць. Колькі бегу,
столькі смеху —
у паветры
смех звініць.
Пасля снегу
на дварышчы
ох як весела
нагам!
Ля вушэй
аж вецер свішча
і казыча шчокі
нам.
Мы вароты
адчыняем
і да рэчкі —
стрымгалоў!
Даганяем,
абганяем
самых шпаркіх
матылькоў.

### ЖЫВЫЯ КВЕТКІ

Імчыцца дарога
праз луг
і палетак.
Глядзіце,
як многа
насыпана кветак.
Жаданых і мілых,
духмяных, мядовых —
бялёсых і сініх,
ліловых,
ружовых.
Пялёсткі
пад ветрам
варушацца ціха:
ім, бачыце,
хочацца
сонцам падыхаць.
І кветкі ля нас,
як жывыя,
паўсталі —
такія якраз,
як зімой малявалі.

## ЗАІНЬКА, ШЭРАНЬКІ, ДЗЕ ТЫ БЫВАЎ?

— Заінька, шэранькі,
Дзе ты бываў?
— У млыне, у млыне.
— Што ты відаў?
— Мех мукі, мех мукі.
— Чаму ж не ўзяў?
— Хацеў я, хацеў я.
Млынар не даў:
Набеглі, набеглі
Млынарчыкі,
Пабілі, пабілі
Мне пальчыкі.
Набеглі, набеглі
Падмельшчыкі,
Пабілі, пабілі
Мне плечыкі.

[Moderato]

За - і-нька, шэ - ра-нькі, дзе ты бы- ваў?
У млы-не, у млы-не. Што ты ві - даў?

## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

— А мая сястра бачыць у цемры, — хваліцца Ванюшка сябру.

— Гэта ж немагчыма!

— Як гэта — немагчыма? Учора сядзела, не запальваючы святла, са сваім хлопцам, і сказала яму: „Ты не паголены!"

* * *

На ўроку біялогіі настаўніца просіць дзяцей, каб сказалі, якія жывёлы ёсць у іх дома.

— У нас ёсць сабачка Фафік, — хваліцца Валодзя.

— А ў нас ёсць канарэйка.

— А ў нас акварыум з рыбкамі.

— А ў нас у халадзільніку ёсць курыца, — канчае Ясь.

* * *

Хваляцца хлопчыкі:
— Мой татка ёсць багаты.
— А мой разумны.
— А мой пазычыў твайму грошы!
— А мой яму не аддасць!

* * *

— Якое матэматычнае дзеянне трэба зрабіць, каб з чатырох дошак стала восем?
— Хіба рэзанне? — думае Косцік.

Запісаў для Вас
**А. ГАЎРЫЛЮК**

## ЛАГАГРЫФ

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | 1 | | | | | |
| | | | | 2 | | | | | | |
| | | | 3 | | | | | | | |
| | | 4 | | | | | | | | |
| | 5 | | | | | | | | | |
| 6 | | | | | | | | | | |

1. расліна, з якой грэцкая каша, 2. праваслаўная святыня, 3. снежны „чалавек", 4. хатні „сторож", 5. дае малако, 6. дае воўну.

Вылучаныя літары складуць назву важнай часткі цела.

Узнагароду высылаем Юрку Буйнюку з Маліннікаў.

**АДГАДКІ НА РЫФМАВАНКІ**

1. Піла. 2. Малаток. 3. Фуганак. 4. Абцугі. 5. Самавар. 6. Ліска. 7. Сонца. 8. Цыбуля. 9. Капуста.

*Новыя вершы*

*БАРЫС РУСКО*

**ЧАС**

Спыніся, вандровец, у хадзе безупыннай,
у матэль прыдарожны ўступі.
Духмянай тут пахне гарбатай і кавай,
спачні на гадзінку, паеш і папі.
А мне, гаспадар мой, дазволь адлучыцца
ад графіка вызначанага да драбніц.
Хачу сам-насам у галіністай цішы
з яе прывабнасцю Вясной пабыць.
Хачу на адно слова больш сказаць.

**ЯНА З'ЯЎЛЯЕЦЦА МНОЮ**

Маю недасканаласць не вылівай за акно,
бо гэта буду я ў вобразе чалавека,
як куст без кветак, як птушка без крылаў.
Мая недасканаласць, як лістота дрэў,
без якой яны мёртвыя.
Тоеснасць ва ўсесвядомасці.
Без яе быў бы я камп'ютэрам
эннага пакалення,
ценем распятым на крыжы,
абмацваным святошамі.
Мая недасканаласць у дасканаласці —
простай, людскай.
Не вылівай яе за акно,
яна з'яўляецца мною.

**НАДЗЕЯ**

Прарастаючае поле пахне лустай хлеба.
Шугае зелень пад дажджом і сонцам.
Ї ёсць надзея, што стане сілы
і ў зерне пераўтворыцца сок зямлі.

# УЛАДЗІМІР КЛІШЭВІЧ — ПАЭТ РЭФЛЕКСІЎНЫ

## Частка III

Адыход Чырвонай Арміі, упадак савецкай улады, устанаўленне нямецкага новага парадку, паставілі перад Уладзімірам Клішэвічам праблему выбару. Выбар датычыў дарогі, якой трэба было ісці ў новай рэчаіснасці. Зрэшты, малады паэт меў дылему. Для яго лепшым было зло нямецкае. Прасавецкая арыентацыя, выяўленая, напрыклад, у супрацоўніцтве з партызанамі, праўдападобна давяла б яго да смерці, бо напэўна партызаны ніколі не адносіліся б да яго, як да былога вязня, з даверам.

Як былы савецкі вязень, Уладзімір Клішэвіч карыстаўся ў перыяд акупацыі шырэйшымі рамкамі свабоды, чым многія іншыя беларусы. Праўдападобна не цікавіла яго палітычная кар'ера ў беларускіх легальных арганізацыях. Пасля цяжкіх лагерных гадоў, якія, зразумела, не спрыялі творчасці, ва ўмовах свабоды дайшоў да голасу натуральны ў такой сітуацыі паэтычны інстынкт. Уладзімір Клішэвіч знайшоў занятак, які найбольш адпавядаў яго духоўным схільнасцям. Пачаў працаваць у рэдакцыі „Газэты Случчыны". Праца гэта мела два пазітыўныя элементы. Першы заключаўся ў тым, што пісьменнік знайшоўся як вольны чалавек на роднай Случчыне, другі ў тым, што дзякуючы газеце атрымаў магчымасць даводзіць сваё паэтычнае і публіцыстычнае слова да шырокага кола чытачоў. Зразумела, што ўдзел у працы газеты з пранямецкай арыентацыяй заключаў у сабе вялікую пагрозу смерці. Вынікала яна з дзейнасці савецкіх партызанаў, якая ахапіла ўсю тэрыторыю Беларусі, у тым таксама і Случчыну. У выніку іх дзейнасці было знішчана многа не толькі тых беларусаў, якія дзейнічалі ў легальных беларускіх палітычных арганізацыях, але таксама і тых, якія служылі беларускай асвеце і культуры.

Аднак лёс аказаўся ласкавы для Уладзіміра Клішэвіча. Партызанцкі і нямецкі тэрар абышлі яго бокам. Трэба сумнявацца, ці дасведчаны жыццём Уладзімір Клішэвіч, які асабіста спазнаў бязмежжа прастораў Сібіры і акунуўся ў белае пекла сібірскіх зімаў, верыў, што немцы заваююць увесь Савецкі Саюз. Аднак папаўшы паміж савецкі молат і нямецкую наквадзельню, выбраў варыянт аптымальны — пачаў працаваць на ніве беларускай паэзіі і культуры. Аднак у сваёй творчасці не ўдарыў у трыумфальныя пранямецкія струны. Яго паэзія з часоў акупацыі адзначаецца палітычнай стрыманасцю і развагай.

Паэт дайшоў да вываду, што галоўная яго мэта заключаецца не ў тым, каб падпарадкаваць сябе і беларускі народ новаму ідалу — Гітлеру, а толькі ў меру магчымасці сказаць у паэтычнай форме беларускай грамадскасці максімум праўды аб ёй самой. Бо толькі глыбокае самапазнанне дазваляе кожнай нацыі дасканаліць сваю духоўнасць і пракладваць шлях, які калі не адразу, дык у канцы канцоў будзе яе весці ў аазіс маральнай незалежнасці.

Апрача публіцыстыкі і вершаў, якія змяшчаў Уладзімір Клішэвіч на старонках „Газэты Случчыны", праяўляў ён таксама іншыя формы культурна-літаратурнай актыўнасці. Адной з такіх праяў быў яго ўдзел у падрыхтоўцы паэтычнага альманаха „Песняры Случчыны", у якім апрача сваіх твораў апублікаваў таксама вершы іншых выхадцаў са слуцкай зямлі. На жаль, я нідзе не сустрэў гэтай кнігі і таму не маю маральнага права выказвацца аб яе форме ці змесце. Аднак на падставе некаторых вершаў Клішэвіча, напісаных у перыяд акупацыі, можна прыблізна судзіць і аб тых творах, якія скласіся на альманах „Песняры Случчыны". Праўдападобна, у гэтым зборніку не было палітычнага трыумфалізму і галоўныя пазіцыі былі ў ім аддадзены вершам патрыятычным і тым, у якіх адлюстраваны роздумы паэтаў над айчынай, якая папала ў цяжкія ваенныя абставіны.

У 1944 годзе Чырвоная Армія канчаткова выгнала з беларускай зямлі немцаў. Клішэвічу ў ніякім выпадку нельга было заставацца ў Беларусі. Было б гэта адназначнае са смерцю. Знайшоўшыся ў такой сітуацыі, пастанавіў ён пакінуць Беларусь і выехаць у глыбіню Германії. Такім чынам распачаўся чацвёрты перыяд у яго жыцці.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

# НАДЗЕЯ АРТЫМОВІЧ У ГАЙНАЎЦЫ

Клуб беларускіх спраў, які дзейнічае ў гайнаўскім беларускім ліцэі наладзіў чарговую сустрэчу. Госцем была выдатная беларуская паэтка Надзея Артымовіч.

Пасля кароткай біяграфічнай інфармацыі, пачалося знаямленне з выбранымі аўтаркай вершамі. Сярод сабраных пасеялася глыбокая цішыня. Калі паэтка хацела закончыць чытанне лірычных твораў, слухачы жадалі ўсё і ўсё працягваць. Далей пайшлі пытанні і разважанні аб паэзіі. Ліцэістаў падтрымоўваў настаўнік Яўген Вапа.

* * *

Паводле паэткі ў літаратуры ёсць элемент крэацыі. Гэта некалькі праблем, якія аўтары вырашаюць па-свойму. Тэматычны спектр Надзеі Артымовіч — спроба пошукаў. Паэзія перш за ўсё гэта сітуацыя, таму месца і людзі дзе прабывае лірычнае я, так важнае для паэткі. Горад (Бельск) гэта пачатак жыцця, які акрэслівае чалавека на ўсё жыццё.

Лірычны герой Надзеі Артымовіч гэта трансфармацыя сябе і іншых.

— Калі пераказваю сябе, пераказваю і іншых, — сцвярджае аўтарка зборнікаў „Роздумы", „Сезон у белых пейзажах" і „З неспакойных дарог". Артымовіч цікавіць чалавек эстэтычны, гарманічны, чалавек які пражыў жыццё з сэнсам.

— Свет якраз не пазбаўлены прыкладаў сэнсоўнага жыцця, — кажа паэтка.

Паводле Надзеі Артымовіч чалавек з'яўляецца моцнай істотай. Аўтарка звяртае ўвагу на самотнасць чалавека ў свеце. Ї гэта лічыць звыклай, штодзённай праблемай. У паэзіі Н. Артымовіч вельмі сціплы спосаб тэхнічнага выяўлення верша. Паэтка пазбягае рыфмаў. Уся ўвага верлібра факусіруецца вакол зместу — сітуацыі. У лаканічным слоўніку знаходзіцца багатая вобразнасць і метафарычнасць.

Шмат часу на сустрэчы было адведзена таксама праблемам перакладаў. Слухачы выявілі жаданне, каб паэтка прапагандавала сваю творчасць і ў перакладах.

* * *

Яўген Вапа, настаўнік гісторыі, адводзіць вялікую ўвагу фармаванню будучай беларускай інтэлігенцыі. Вырашыў ён таксама правесці ў Гайнаўцы паэтычныя конкурсы для ліцэістаў і працоўнай моладзі. Яўген Вапа хацеў бы вылучыць на першы план талент сваіх вучняў і энтузіястаў беларускай літаратуры. Усім зацікаўленым прапануецца шанц публікацыі. Прадбачваюцца таксама фінансавыя ўзнагароды, спонсарамі якіх будуць прыхільнікі беларускай справы. Мэтай сустрэчы з Надзеяй Артымовіч было паказаць яшчэ не надта спелым чытачам тое, што ў беларускай літаратуры цэннае і арыгінальнае.

— Не часта маем нагоду і магчымасць такой інтэлектуальнай сустрэчы. На жаль, мы на штодзень не жывем у кантэксце беларускай літаратуры, — сцвярджае Яўген Вапа.

* * *

На сустрэчу з Надзеяй Артымовіч прыйшло 6 вучняў, 2 настаўнікі і школьны стаматолаг.

— Прыходзяць тыя, хто хоча прыйсці. Але выглядае так, што на 370 нашых вучняў толькі 5—6 цікавяцца справамі, якія вельмі важныя і недаступныя ў школьнай праграме, — кажа Аня Радзіванюк з III „а" класа. Дарэчы, гэта амаль тыя самыя вучні, якія прыходзяць на ўсе сустрэчы. Апрача моладзі з беларускага ліцэя прыходзяць і людзі з тэхнікума, суседняга „польскага" ліцэя, і мясцовыя інтэлігенты.

— Гэтыя сустрэчы вельмі цікавыя і на высокім ўзроўні, — пракаментавала Крыстына Філіманюк, школьны стаматолаг.

— Не ведаю як можна прапусціць так рэдкую і цікавую сустрэчу, — заявіла ліцэістка, якая піша вершы.

Усе, яе сябры, якія маюць інтэлектуальныя амбіцыі, напэўна падтрымаюць яе пазіцыю.

**ГАННА КАНДРАЦЮК**

# ТАКАЯ ПЕСНЯ

У 1994 годзе беларуская песня на конкурсах спяваецца ўжо 25 год. А я выступала ўжо пяты раз.

На адкрыцці юбілейнага конкурсу дырэктар Гайнаўскага дома культуры Мікола Бушко сказаў, што хаця грошай на ўзнагароды няшмат, то ўдзельнікаў конкурсаў усё больш. Тады я падумала: „Праўду мне бабуля казала, што ў бядзе людзі лепшымі бываюць!"

Памятаю, што як я хадзіла ў пачатковую школу, а потым у ліцэй і чытала пра фінал конкурсу беларускай песні, нашая вядомая спявачка Люба Гаўрылюк раз ва ўзнагароду паехала на экскурсію ў Савецкі Саюз. Цікава, што калі былі лепшыя ўзнагароды, зацікаўленых выступленнямі было менш! Цяпер з усім цяжэй, але людзей ахвотных развіваць родную культуру — больш, як мне здаецца. Гэта добра. Не памрэ наша песня, і наша мова будзе жыць!

На раённым агглядзе ў Гайнаўцы я не магла да канца выслухаць марафон беларускай песні — не мела б чым дабрацца дадому. З таго, што пачула, найбольш спадабалася мне выступленне жанчын з Макаўкі. Іх салістка — Іраіда Садоўская захапіла ўсіх. Потым я здзівілася, што ні салістка, ні цэлы калектыў журы не вылучыла, значыць — хіба не заўважыла іх выступлення? Праз год будзе праводзіцца 26 конкурс, і я жадаю жанчынам з Макаўкі, каб на гэты раз іх заўважылі і ўзнагародзілі! Найважнейшае — не браць гэтага блізка да сэрца а працаваць далей.

У Беласток я ехала прастуджаная, са страшэнным насмаркам. Ведала, што выступіць не магу найлепш, але хацелася паказацца ў новым месцы.

Зусім выпадкова я падслухала размову палякаў. Мужчына гаварыў, што беларусы спяваюць лепш за ўкраінцаў, а жанчына адказала яму, што ўкраінцы лепей, бо спяваюць так, быццам паказваюць: вось якія мы важныя!, а беларусы: тай-ля-ля...

Што ж! Які народ, такая ў яго песня! Беларусы — народ спакойны, і песня ў яго лагодная.

**АЎРОРА**

## СЛОВА ПРА ГЕНЕРАЛАБУЛАК-БАЛАХОВІЧА

Станіслаў Булак-Балаховіч — апошні „загоньчык", герой і Польшчы, і Беларусі. Камандзір партызанскіх атрадаў, якія ў 1918-20 гадах змагаліся з бальшавіцкай рэвалюцыяй. Легендарны „Бацька", каханы і шанаваны ўсімі сваімі жаўнерамі. У 1920 годзе сфармаваў, на баку Польшчы, беларускую дабраахвотную армію. Калі змоўклі стрэлы на польска-бальшавіцкім фронце, ён са сваімі жаўнерамі распачаў марш на Мазыр і Рэчыцу, імкнучыся падняць агульнанацыянальнае беларускае паўстанне, якое, у сваю чаргу, давяло б да стварэння Беларускай Народнай Рэспублікі.

16 лістапада 1920 года нават арганізаваў ён у Мазыры ўрад БНР, аднак, утрымаць гэтую дзяржаву яму не ўдалося. Пасля правалу мазырскай акцыі генерал вярнуўся ў Польшчу. Бальшавікі патрабавалі ягонай выдачы, але гэтага так і не дабіліся.

Генерал і яго жаўнеры пасяліліся ў Белавежы. Аднак тэмперамент С. Булак-Балаховіча не дазволіў яму сядзець спакойна. Дзейнічаў ён у розных згуртаваннях ветэранаў, арганізаваў гаспадарчую дзейнасць і пісаў. Так, быў ён не толькі жаўнерам, але і паэтам, таксама добрым публіцыстам. У 1931 годзе выдаў кнігу пад загалоўкам „Wojna będzie czy nie będzie", у якой трапна прадбачыў характар будучай вайны. Пісаў ён, між іншым, што прынясе яна з сабой генацыд.

С. Булак-Балаховіч загінуў ад кулі гестапа 10 мая 1940 года ў Варшаве. Меў ён не толькі прыхільнікаў, але і ворагаў. Для гэтых другіх быў ён толькі важаком без сваёй радзімы.

Каго б зацікавіла асоба С. Булак-Балаховіча, таму рэкамендую кнігу Марка Цабаноўскага „Generał Stanisław Bułak-Bałachowicz — zapomniany bohater", выдадзеную ў 1993 годзе ў Варшаве. Кніга мае папулярна-навуковы характар і чытаецца як цікавы сенсацыйны раман. Многа цікавых здымкаў. Каштуе толькі 55 тысяч злотых.

**АПО**

# СТРАСНАЯ СЯДМІЦА

Святая Чатырадзесятніца канчаецца ў пятніцу шостага тыдня. Два чарговыя дні (таксама посныя) — Уваскрашэнне Лазара і Уваход Гасподні ў Іерусалім вылучаюцца з усяго поснага перыяду з увагі на здарэнні, аб якіх яны сведчаць. Яны адначасна быццам дзверы, праз якія ўваходзім у перыяд Вялікага Тыдня, за якім чакае нас Гасподняе Уваскрашэнне. Лазарава Субота нагадвае нам аб блізкім Уваскрашэнні Хрыстовым, аб паўсюдным у будучыні ўваскрашэнні памёрлых. У Вербніцу ўспамінаем каралеўскае ўслаўленне Хрыста, якое паказвае, што Ягоныя пакуты былі дабравольнымі. У гэты дзень паводле правілаў можна есці рыбу.

Апошні тыдзень перад Пасхай з увагі на ўспамінанне апошніх дзён жыцця Збавіцеля на зямлі, яго пакут і смерці называецца **Страсным**. Іншая яго назва — **Вялікі** — нагадвае нам аб значэнні гэтых здарэнняў.

Гэта ўсё, што было выяўлена ў правобразах або прадказана ў Старым Запавеце, а ў Новым Запавеце было паказана або сказана аб апошніх днях зямнога жыцця Хрыста, гэта ўсё паступова адкрывае Царква перад намі на багаслужбах Страснай Сядміцы. На працягу першых трох дзён Царква рыхтуе вернікаў да пакутаў Хрыста. На багаслужбах у гэтыя дні чытаецца некалькі кніг са Старога Запавету.

**Прароцтвы Іезекііля** гавораць нам аб Царкве створанай на зямлі Самым Ісусам Хрыстом. Чытанні з **Кнігі Выхаду** паказваюць няволю выбранага народа, які вызваліўся з яе пасля спажыцця ягняці — правобраза Пасхі Гасподняй. **Кніга Іова** прадстаўляе пакуты і пакорнае перанашэнне ўсіх бед і выпрабаванняў веры, пасыланых Богам, будучых правобразам пакутаў Збавіцеля за нашы грахі. На працягу першых трох дзён Страснай Сядміцы на **Часах** чытаюцца ўсе чатыры Евангеллі, каб засяродзіць думку і ўвагу вернікаў на ўсёй Евангелічнай гісторыі ўвасаблення Багачалавека і Яго служэння людзям.

**У сераду вечарам** канчаюцца велікапосныя набажэнствы. У царкоўных спевах змаўкае плач людской душы, а пачынаецца плач пад уздзеяннем пакутаў на крыжы Сына Божага. Багаслужбы чарговых дзён Страснай Сядміцы ўносяць адначасна ў нашы сэрцы радасць з прычыны надзеі, што распяты Збавіцель уваскрэсіць разам з Сабой нас грэшных. Набажэнствы Вялікага Тыдня ствараюць нам магчымасць перанесціся думкамі ў тыя мясціны Святой Зямлі, у якіх у апошніх днях свайго жыцця на зямлі прабываў Хрыстос: Іерусалім, Аліўкавая Гара, Сіёнская святліца, Гефсіманія, Галгофа і агарод Іосіфа з Арымафеі.

Вось у скарачэнні паасобныя дні Вялікага Тыдня:

**Вялікі Панядзелак** — успамінаем патрыярха Іосіфа, якога нявінныя пакуты былі правобразам пакутаў Хрыста, і евангельскія прытчы аб бясплоднай смакоўніцы і нядобрых вінаградніках. Літургія Ранейасвечаных Дароў.

**Вялікі Аўторак** — у гэты дзень Царква напамінае аб Паўторным Прыходзе Хрыста і аб Страшным Судзе, а ў прытчах гаворыцца аб дзесяці дзевах і аб талентах. Літургія Ранейасвечаных Дароў.

**Вялікая Серада** — успамінаем памазанне ног Збавіцеля жанчынай-грэшніцай у доме Сімана Пракажонага і вырашэнне Іудам намеру здрадзіць Хрысту. Паводле правілаў гэты дзень, у сувязі з заканчэннем набажэнстваў велікапоснага характару, з'яўляецца апошнім днём чытання велікапоснай малітвы Св. Яфрэма Сірына і адбівання вялікіх паклонаў у царкве, але дома можна біць вялікія паклоны да пятніцы. Літургія Ранейасвечаных Дароў.



**Вялікі Чацвер** — набажэнствы гэтага дня гавораць аб Тайнай Вячэры з устанаўленнем Таінства Прычасця і абмываннем ног Апосталам, а таксама аб малітве Збавіцеля ў Гефсіманскім Садзе і здраду Іуды. Вечарам, на пятнічнай ютрані, чытаецца дванаццаць Страсных Евангелляў (фрагменты з усіх чатырох Евангелляў) аб пакутах Ісуса Хрыста. Літургія Св. Васіля Вялікага.

**Вялікая Пятніца** — успамінаюцца: смерць Госпада на крыжы, зняцце Яго Цела і злажэнне ў магілу. На вячэрні, каля 14—15 гадзіны адбываецца вынас Святой Плашчаніцы (савана, багата арнаментаванай тканіны з выявай Хрыста ў труне). Гэта самы посны дзень у годзе — абавязвае строгі пост і забарона спажываць усялякую ежу. Паводле правілаў толькі хворыя і старыя могуць пасля заходу сонца спажываць хлеб з вадою. Калі каму цяжка паўстрымацца ад ежы ў гэты дзень, дык павінен не есці прынамсі да моманту вынасу Св. Плашчаніцы. У гэты дзень Літургія не адбываецца.

**Вялікая Субота** — Царква ўспамінае прабыванне Хрыста целам у магіле, сашэсце душою ў пекла, каб вывесці душы памёрлых людзей да Яго прышэсця, увядзенне разважлівага разбойніка ў Рай, а таксама прабыванне з Айцом і Духам у Небе. У гэты дзень служыцца Літургія Св. Васіля Вялікага, а песні Вялікай Суботы спалучаюцца з нядзельнымі. Такім чынам Літургія Вялікай Суботы з'яўляецца заканчэннем страсных багаслужбаў і заадно ўвядзеннем у самае вялікае хрысціянскае свята — Пасху Хрыстову.

С.Н.

# ПАЛЕССЯ ЧАР



Змяшчаем ніжэй песню, якая была вельмі папулярнай у элітарным асяроддзі даваеннай Польшчы, а таксама здымкі жыхароў Палесся з тае эпохі.

**ПАЛЕССЕ**
**(даваенная песня)**

Палесся чар...
Там ціхія пушчы, імшары.
Палесся чар...
Там дзікіх віхраў шлях,
Дзе ў ноч як смоль
З дрыгваў ідуць апары,
Сэрца дрыжыць,
Дзіўны бярэ яго страх.
І чую, як з водная тоні
Квіліць якаясь журбота.
Сэрцу ахвота
бачыць
Палесся
цуд.

Пераклаў
**С. КОРЧАК—МІХАЛЕЎСКІ**



# НАШЫ КАРАНІ

## LXIV. ПАД НЯДРЭМНЫМ ВОКАМ ІНКВІЗІЦЫІ

У духовым жыцці ўсяго хрысціянства кнігі Свяшчэннага Пісання або Біблія адыгрывае надзвычай важную ролю, бо з яе ад заранку пашырэння Хрыстовай навукі і да сённяшняга дня веруючыя „чэрпаюць натхненне і моц для свайго духовага адраджэння", — як сцвярджаецца ва ўступе да аднаго з незлічоных яе выданняў. Таму спачатку на перапісванні і здабленні, а потым на друку і ілюстраванні Біблії свой высілак і талент засяроджвалі каліграфы, друкары і мастакі ўсяго свету.

Першую друкарню з кірылаўскім шрыфтам сканструяваў нямецкі выхадца родам з горада Нойштат Швайпольт Фіёль, які пасяліўся ў Кракаве і тут займаўся разнастайнай прадпрымальніцкай дзейнасцю. Быў ён чалавекам кемлівым, яму належала некалькі вынаходстваў з розных галін тэхнікі. Па ягонаму заказу студэнт Кракаўскага універсітэта, немец па паходжанню, Рудольф Борсдорф Малодшы нарыхтаваў кірылаўскі шрыфт. Мабыць, іншыя студэнты ці выкладчыкі з таго ж універсітэта, якія паходзілі з беларускіх зямель дапамаглі ў падрыхтоўцы тэкстаў і іх наборы. На тое паказвае ў выдадзеных у 1491 г. „Васьміягалосніку" (літургічная кніга з малітвамі набажэнстваў у будныя і святочныя дні тыдня з падзелам на працягу года на восем галасоў літургічнага спеву) і „Часаслове" (літургічная кніга з богаслужэбнымі тэкстамі, псалмамі і малітвамі для розных пораў дня) калафон (stopka), дзе, між іншым, на старабеларускай мове гаворыцца: „Доконьчана быс сия книга у великом граде оу Кракове при державе великого короля полского Казимира...".

Надрукаванне „схізматыцкіх" кніг, якія садзейнічалі ўмацаванню праваслаўнай веры і праваслаўнай духовай культуры ў Каралеўстве Польскім і Вялікім княстве Літоўскім, давяло да шалу каталіцкую іерархію, тым большага, што дзеялася тое ўсё пад носам, у сталічным Кракаве. Вядома, Ш. Фіёль адразу быў схоплены інквізітарамі і ўкінуты ў падзямеллі. Яму стала пагражаць непазбежная смерць у полымі кастра на Кракаўскім рынку. Аднак яго прыяцелі-прадпрымальнікі шчодра захабарылі духоўных суддзяў і гэтыя „ахоўнікі каталіцкай правамыснасці" не толькі выпусцілі на волю, але і ачысцілі з усіх падазрэнняў Ш. Фіёля ды нават аб'явілі яго „прававерным і адданым каталіком". Усё ж яму не было дазволена, як ён пра тое не стараўся, распаўсюджваць ужо надрукаваныя ды закончыць друк і распрадаць новыя выданні.

Настойлівы прадпрымальнік не скарыўся-такі. Каля 1493 г. ён выдаў дзве наступныя салідныя па аб'ёму праваслаўныя літургічныя кнігі „Трыёдзь посную" (з багаслужэбнымі тэкстамі на час ад Нядзелі Мытніка і Фарысея да Вялікага Тыдня) і „Трыёдзь каляровую" (з тэкстамі набажэнстваў ад Вялікага Тыдня да Нядзелі Усіх Святых Праслаўленых на Рускай Зямлі). Каб зноў не трапіць у кіпцюры „святое" інквізіцыі, Ш. Фіёль у гэтых кнігах не змясціў ні слова пра іх выдаўца, час і месца выдання.

Пасля гэтых не надта ж прыемных прыгодаў Ш. Фіёль пакінуў Кракаў (або, магчыма, яго прымусілі гэтак зрабіць), пераехаў спачатку на Шлёнск, а затым у Славакію. Вучоныя мяркуюць, што, дзейнічаючы ў славацкім горадзе Леавачы, ён выдаў там зборнік праваслаўных рэлігійных песень „Залаты калодзеж" (каля 1515 г.), а таксама заснаваў друкарню з кірылаўскім шрыфтам у закарпацкім праваслаўным Грушаўскім манастыры.

Кнігі Ш. Фіёля выдадзены, як на тыя часы, на неблагім узроўні, яны двухколерныя, аздобленыя ініцыяламі і застаўкамі, у некаторых змешчаны гравюры.

Яны трапілі да тых, каму былі адрасаваны, — да праваслаўных Старабеларускай дзяржавы (Вялікага княства Літоўскага) і Вялікага княства Маскоўскага, мяркуецца, што захоўваліся таксама ў бібліятэцы Супрасльскага манастыра — найбагацейшым кнігазборы XVI-XVIII ст.ст. на беларускіх землях.

З кнігамі Ш. Фіёля быў знаёмы славуты беларускі гуманіст і першадрукар Георгій (Францішак) Скарына. Магчыма, што яны інспіравалі яго да выдавецкай дзейнасці. Вучоныя сцвярджаюць выкарыстанне Г.(Ф.) Скарынам Фіёлеўскага „Часаслова" пры падрыхтоўцы „Малой падарожнай кніжкі".

**МІКОЛА ГАЙДУК**




*З МАНАСТЫРСКАЙ КУХНІ*

**РУЖОВАЯ ПАСХА**

Прадукты:
*80 дэкаў тлустага белага сыру,*
*20 дэкаў варэння (вішнёвага, малінавага) без сіропу,*
*1/2 шклянкі цукру,*
*3 яйкі,*
*10 дэкаў масла,*
*1—2 шклянкі густой салодкай смятанкі.*

Сыр працусціць праз мясарубку, перамяшаць з варэннем і цукрам, працерці праз сіта. Да масы дадаць яйкі, масла і смятанку, добра перамяшаць. Пералажыць у сурвэтку, прыцісніць нечым цяжкім і пакінуць так, каб застыла.

**ГАСПАДЫНЯ**

# ПАНАРАМА МІХАЛОЎСКАЙ ГМІНЫ

## (6)

### Асаблівасці тапаніміі

**Гозьна** — назва тапанімічная ад назвы ракі *Гвозна* (цяпер Руда), левага прытока Нарвы; назва ракі Гозна (*Гвозна* або *Гвоздна*) абазначае пераплываючую цераз лес раку, для параўнання стараруская *гвозд*, чэшскае *гвозд*, старапольскае *гозд* — лес; у першапачатковай назве ракі *Гвоздна* адбылося спрашчэнне зычных груп *здн* у *зн* і *гв* у *г*.

**Грыцы** — прысёлак вёскі Цісоўка; назва яго ад асабовай назвы *Грыц* (царкоўнае Грыгорый), роду, які і зараз пражывае ў гэтым прысёлку.

**Каменны Брод** — прысёлак вёскі Казімярова, раней фальварак і калёнія; тапанімічная назва ад *броду* з камяністым дном, г.зн. мелкага месца на рацэ ці балоце, па якім пераходзяць пешшу, пераязджаюць з возам; тут перапраўляліся цераз раку Супрасль.

**Кардашы** — калёнія вёскі Ціванюкі, якая ўзяла назву ад асабовай назвы *Кардаш*.

**Казімярова** — раней фальварак, сёння вёска. назва выводзіцца ад імя *Казімір*, аднаго з членаў сям'і Гераніма Радзівіла, які ў другой палове XVIII стагоддзя быў уладальнікам фальварка.

**Кітурыкі** — ад асабовай назвы *Кетурык*; у Літве ёсць мясцовасці *Кетуракішкі* і *Кетуракі*, значыць назва з літоўскім элементам. У выніку паступовай славізацыі назваў літоўскага паходжання, большасць існуючых цяпер тапонімаў мае літоўскую аснову і славянскі тапанімічны фармант.

**Кабылянка** — назва тапанімічная з *кабыла* (між іншым ёсць рачулка *Кабылянка* ў Кнышынскай пушчы).

**Калясное** — назва тапанімічная, першапачаткова поле або ўрочышча, размешчаныя ў лесе або пасярод багны і маючыя форму кола, круглае.

**Калеснікі** — калёнія вёскі Ціванюкі, ад асабовай назвы *Каляснік*; гэта беларуская назва *каляснік* (карэтнік).

**Кандраткі** — радавая назва ад асабовай *Кандратка* (памяншальная форма імя *Кандрат*).

**Капцы** — першапачаткова ўрочышча, калёнія а затым вёска; назва тапанімічная (параўн. апоўзень, узгорак, узвышша, узвышэнне, курган, *капец*).

**Круглы Лясок**— назва тапанімічная.

**Крукоўшчына** — калёнія вёскі Гозьна; назва прыналежная ад асабовай *Крук*, *Крукоўскі*.

**Кухмы** — радавая назва ад асабовай *Кухма* (беларускае: *Кухмар*; польскае дыялектнае *кухмажыць* — дрэнна варыць).

**Курылы** — прысёлак вёскі Азяблы; радавая назва ад асабовай *Курыла*, *Курыло* (*Кірыла*).

**Лявонавічы** — назва патранімічная ад беларусакага імя *Лявон*, *Лявонь*; у XVII стагоддзі пасяліўся тут, над ракой Луплянкай, Лявон сын Грыгора Матуса, асочніка з Лупляны.

**Лясанка** — назва тапанімічная; параўн. *лясанка* — малы лясок.

**Леўшы** — радавая назва ад асабовай *Леўша*; параўн. беларускае дыялектнае *леўша*, *ляўша*, *ляўшун*.

**Лук'яны** — калёнія вёскі Рудніца; радавая назва ад імя *Лук'ян*.

**Луплянка** — назва тапанімічная ад назвы ракі *Луплянка*, правага прытока Нарвы, а тая ўзята ад *лупіць*, абдзіраць берагі. Фанетычная форма назвы *Луплянка* сведчыць аб усходнеславянскім яе паходжанні, на што паказвае эпентэтычнае *л(ь)*. Першапачаткова вёска называлася *Лупляна* (недзе на пераломе XV і XVI стагоддзяў). Заснавалі яе трох асочнікаў, якіх заданнем было сцерагчы пушчу на яе ўзмежжах і ў сярэдзіне. Назва асочнік — ад дзеяслова сачыць (пільнаваць, сцерагчы).

**Мацейкава Гара** — прысёлак вёскі Аднога; тапанімічная назва. Слова *Мацейкава* з'яўляецца прыналежнай назвай ад асабовай *Мацейка*.

**Майдан** — першапачаткова *Майдан Верх Саколе* — урочышча, шкіпінарня; *майдан* — лясная асада, месца ў лесе, дзе гоняць смалу, шкіпінар, дзёгаць альбо паляць вугаль, робяць клёпкі.

**Маліноўшчына** — калёнія вёскі Кандраткі; урочышча, асада Адама *Маліноўскага*; назва прыналежная ад прозвішча *А. Маліноўскага* ўладальніка ўрочышча, званага таксама *Масеўшчына*.

**Матушэйкі** — калёнія вёскі Ціванюкі; у дыялекце: *матэушы*; радавая назва ад асабовай *Матушэйка*, якая з'яўляецца літоўскім дэрыватам ад імя *Матуш* (польскае: *Матэуш*).

**Мастаўляны-Калёнія** — першапачаткова назва фальварка, пазней вёскі; этнаграфічная назва, якая першапачаткова абазначала людзей пражываючых пры мосце або ў мясцовасці *Мост*.

**Мосціска** — вёска, першапачатковыя назвы *Курылаў-Мост*, *Стар-Мост*; назва, якая абазначае месца, дзе быў мост. Вёска знаходзіцца над ракой Супраслю.

**Нікіціны** — калёнія вёскі Ціванюкі; у дыялекце: *мікіцін* (на сучаснай карце *Мікціны*); прыналежная назва ад беларускага імя *Мікіта*.

**Новая Воля** — адна з буйнейшых вёсак на Беласточчыне, з ліку такіх спрадвечных беларускіх гнёздаў як: Трасцянка, Рыбалы, Чыжы, Навасады, Дубіны, Ляўкова і Ласінка. Карэнняў назвы вёскі трэба шукаць у глыбокай, але добра ўжо замацаваўшайся паншчыне. Паны, каб павялічыць свае прыбыткі, сялілі прыгонных мужыкоў на цаліну, на пустое месца і на нейкі час давалі ім волю. Калі добраўпарадкаванне новай зямлі, найчасцей зарослай яшчэ дрымучым лесам, патрабавала многа часу, тады магнат-уласнік вымушаны быў даваць сваім падданым „вялікую волю", калі, аднак, было вядома, што новапаселеныя сяляне болей хутка справяцца з цалінай-пустэчай, тады дазвалялася ім на *„малую волю"*, значыць, усяго ледзь на *„вольку"*, не даўжэй пяці гадоў. Такім чынам і павяліся па ўсёй Беласточчыне гэтыя *„Волі"*, і *„Вولькі"*, якія найчасцей ведаем мы зараз у польскім гучанні — Вулька: Надбужная, Нурэцкая, Тэрахоўская, Замкавая...

Так яно і было і з Новай Воляй. Відаць, нялёгка даводзілася мясцовым асаднікам карчаваць лес і асвойваць новую зямлю, калі дзеля гэтага спатрэбілася ім *„вялікая воля"*, значыць, нейкія дзесяць гадоў. Пасля, на жаль, зноў давялося працаваць на „свайго" пана.

**Навасады** — назва абазначае новыя асады, пасяленні, пасёлкі; параўн. старарускае і старабеларускае *садзіць* — пасяляць, сяліць, а таксама назва мясцовасці *Навасады* ў Беларусі. Навасады былі заснаваны пазней чымсьці Залешаны, Шымкі, Лявонавічы і Луплянка.

**Аднога** — тапанімічная назва; у дыялекце: *кузьмы-однога*; *однога* — частка вады, адплываючая ўбок або пабочнае рэчышча, рукаў ракі. Вёска знаходзіцца над невялічкім правым безыменным прытокам ракі Нарвы.

**Азяблы** — першапачаткова вёска і фальварак; у дыялекце *озяблы*; радавая назва. У гэтай вёсцы яшчэ і зараз пражывае род *Азяблаў*.

**Пянькі** — назва тапанімічная, якая абазначае пасяленне на месцы свежазрэзанага, зрубленага або ссечанага лесу, на пнях. Вёска рассеяная. Заснавана яна была ў XVIII стагоддзі. *Пянькі* — назва, якую часта сустракаецца на Беласточчыне. У дыялекце: *пенькі*.

**Плянты** — назва новаадмеранага, новараспланаванага фальварка. Гэтая назва часта выступала ў канцы XVIII стагоддзя. Этымалогію назвы *Плянта* трэба спалучаць з апелятыўным польскім словам *плянта* — названне новазапланаванага і вымеранага фальварка.

(*працяг будзе*)
**ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ**

# КРЫНІЦА Ў ЛЯДСКАЙ ПУШЧЫ

☛ *Працяг са стар. 1*

— Я табе скажу, што *дзісь* мне лепш, як за санацыі, бо я зарэ на рэнце сяджу, але тым, хто сядзяць на гаспадарцы, то за санацыі было лепш. Бо глянь што з цэнамі. Паршук каштаваў столькі за кілё, пуд жыта столькі... Не было так, як сёння: штомесяц свежыя цэны! Было прыйшло табе падатак плаціць — ты паршучка падкарміў, здаў і спакойная ў цябе галава. А дзісяка — і „святло", тут і тое, і сёе...

— Калісь „святла" не было. Як тры разы нафты купіў, то хапіла табе на ўсю зіму, — заўважае Валодзя Хадакоўскі.

— Без святла то чалавек здурэе! — кідае хтосьці слова праўды і ўсе смяюцца.

— А вадаправода ў вас няма?

— Трэба было б цягнуць трубы пару кіламетраў, гэта ж мільярды! А электрычнасць у нас з 1972 года. У іншых вёсках ад 1952. А што там было да вайны!

— А як прыйшлі камуністы ў трыццаць дзевятым? — пытаецца Алесь.

— Тут яны мала і былі. Чуеш, тут і не вельмі добра з імі было, бо „налогамі" вельмі ж ціснулі! Ано ім усё давай! Але найлепшае жыццё было за Герака і Ярашэвіча. За Гамулкі *нажэндзе* было, можна сказаць, дарэмнае. Замест яго несці да каваля, лепш было новае купіць, бо такое таннае было. А як усё перавярнулася, то яго цяпер не купіш. Хацеў сусед купіць кацёл да запарніка — 600 тысяч. Дзе ж без яго абыдзецца *рольнік*, што гадуе свіней?! Ну то здае мэтар паршучка, купляе запарнік...

— І за два яго не купіш! — заўважае малады Валодзя.

— Не-е-е. За мэтар купіш, чуеш.

— Ну, за паўтары, калі па 110.

— Праўда. Чуеш, якое *дзісь* жыццё рольнікаў добрае. Сонца ўсім роўна свеціць.

— Гэта і ёсць дэмакратыя. Закладай фірму, якую хочаш. Але крэдыты і цябе заядуць, і тваіх дзяцей. Хоць ты на коміне хату будуй.

— Хіба не раз вам даводзілася пачынаць жыццё? — цікаўлюся.

— У вайну немцы пацыфікавалі пушчанскія вёскі. Бярначчыну спалілі, Крыніцу вывезлі ў Прыбудкі. Далі тэрмін 10 дзён. Разабралі мы ўсё, што маглі, і пераехалі, — успамінае Лук'ян. — Старыя памятаюць.

— Ну, не ўсе такія старыя, вось — Келбашэўскія...

— Але, маладыя! — уздыхае Ніна.

— Але практычна — амаль усе пенсіянеры, — кажа малады Валодзя Хадакоўскі. — Ну, я гаспадар, ён, Саша, Коля, Грыша... Была ў нас добрая вёска, а сталася што — тупікі! Як тут жыць? Адну кароўку прадаў, другую — мала. А хата ў цябе якая — тваю раз?! Жыць жа чалавеку трэба як чалавеку! Але ў нас такое жыццё было, ёсць і будзе! І ў польскім войску я служыў. І за што я біўся? Ну, за што? — тут Валодзя аж грукнуў у стол. — За Валансея *вальчыў*? Хай ён сваіх усіх сыноў у армію адправіць! Не адправіць! Я два месяцы поўзаў у гразі з карабінам, адрабіў сваё! Што, ён прыйшоў парадак зрабіць? Што, на электрыцы знаецца?.. То няхай паладзіць мой беларускі трактар. Ён ва ўсёй гэтай электрыцы зусім не палапаецца...

— Ён самалётам лётае, — спакойна сцвярджае дзед Лук'ян.

— А я магу і *дзісь* з ім спаткацца і сказаць яму: **я служыў**. Ты мне нічога не даў. А як мяне трактавалі там таму, што я з Беласточчыны?! З Польшчы ж і я. На 150 чалавек ці я адзін такі быў? Не меў права іначай сказаць? Мы там брат брата не ведалі. Але сваё я *вывальчыў*,... тваю бабушку.

— Ну, мы — беларусы... — уключаецца Міхась з Бярначчыны.

— Ну, так, але мы ёсць польскія падданыя, — сурова кажа Лук'ян і відна з яго вачэй, што хіба ахвотна кончыў бы гэтую тэму.

— Нас усюды з гэтага кавалка свету лічылі за нейкі сметнік! — яшчэ кіпіць Валодзя. — І як нас далей во трактуюць! Пасеяў я кантрактаваны лубін адборным насеннем з Цэнтралі. Два гектары. Прыйшлі зубры, скасілі яго да кораня. Хто мне за гэта заплаціць? Ну — хто?! Зацвіў мой лубін каля Пакровы. Мусіў я заараць поле. А мушу ж аддаць Насеннай цэнтралі зерня 35 метраў! Як мне цяпер жыць? Узяў бы я за той лубін 15—16 мільёнаў! Прыехалі з нацыянальнага парку, ацанілі шкоды, і канцы ў ваду. У надлясніцтве з мяне толькі насмяяліся. Я цяпер ёсць знішчаны чалавек — папарабіў, і нічога не маю. Душа мне *пэнкла*. А быў бы лубін — *тшымай се*! Я ведаю, як гаспадарыць, 12 гадоў працаваў у добрым „калхозе". А застаўся ў дурнях. У нашай вёсцы — ну, як жыць, не ведаю! Як тут гаспадарыць! Прыйдуць ашуканцы, і ўсё. Ёсць у *жондзі* якое права, ці яго няма? Нават гэтага зубра не магу забіць, бо ён жа пад аховай, а я — не!

— Праўда, зубра не заб'еш. А ці палюе хто цяпер у пушчы? — задаю пытанне, памятаючы, што расказвалі мне пра майстроў-браканьераў з Лядскай і Белавежскай пушчаў.

Адказвае дзед Лук'ян, дыпламатычна прыжмурыўшы свае выпалавелыя вочы:

— Палявалі калісь у пушчы... Вядома. Калісь. Пасля вайны свабода была. Але *дзісяка* — то не. Не, ніхто не палюе. За немца за такое — куля ў лоб... У акупацыю мы дзічыху, што гарох нам знішчыла, забілі ноччу каля Прыбудкаў. Адважыліся — а страх і перад немцамі, і перад партызанамі... Ноч месячная, стрэліў, думаў, у нейкі куст. Падбеглі мы, стаім, а дзічкі малыя, падсвінкі, таксама замерлі, дзівяцца... У сэрца я ёй трапіў... Пасля фронту — хто не хацеў, то не біў, чалавеча! Так пару гадоў было. Але цяпер — ніхто ў пушчы не палюе, хіба што паляўнічыя, што паперы маюць, страляюць, чуеш. Дысцыпліна, ёсць. А дай усім свабоду, то ўсё знішчаць!

**МІРА ЛУКША**

# З МЕСЯЧНАГА КАЛЕНДАРА

**23—25.04. — Месяц у Шалях** (глядзі ў н-ры 16).

**25—27.04. — Месяц у Скарпіёне.** Кіруе палавымі органамі. Нельга праводзіць гінекалагічныя аперацыі. Прымайце гарачыя ванны, сцягваючыя маскі. Добра выпіць лякарства і настойкі абнаўляючыя кроў. Добры масаж крапівой. Праводзьце час у кампаніі.

Месяц добра ўплывае на пасадку памідораў, парэя, цыбулі, рэдзькі, гарбузоў, пасеў лячэбных раслін, асабліва з калючкамі, асцюкамі, шыпамі, калючымі пладамі ці лісткамі.

**27—29.04. — Месяц у Стральцы.** Кіруе ягадзіцамі і бёдрамі. Можаце дазволіць сабе добра паесці — мяса, садавіны, гародніны, арэхаў, разынкаў, папіць вінаграднага віна, сокаў. Маскі на твар з рамонка.

У Стральцы месяц добра ўплывае на пасадку раслін, растучых уверх. Кустоў старайцеся не апрацоўваць у гэтыя дні вострымі інструментамі — магчымасць траўм, а найлепш увогуле не ўжывайце матычкі, кіркі, сякеркі, рыдлёўкі...

**29.04. — 30.04. — Месяц у Казярогу.** Кіруе каленямі. Нельга лячыць зубы, лепш пацярпець. Зрабіць масаж спіны, пазваночніка, галавы, суставаў рук і ног. Можаце пачаць галадоўку, піце многа вады (пры хворым страўніку — галадоўка супрацьпаказана). Добра рабіць ванны і маскі. Карыстайцеся адварамі падарожніку, чартапалоху, рапейніку, настоем муміё. Добра ўстаць перад світаннем і сустрэць усход, узняўшы рукі да Сонца — гэта зарадзіць вас энергіяй. Займіцеся сваімі пазногцямі і валасамі, падкарміце скуру крэмамі, масках і травянымі ваннамі.

Месяц уплывае на пасадку траў і зеляніны, шпінату, сэльдэрэю, парэю, цыбулі, караняплодаў, ягадных кустоў (Казярог вельмі ўрадлівы знак Задыяка). Цыбулю саджаць пры ўбываючым Месяцы.

**Нядзеля, 24.04. — 15 месячны дзень.** Сімвал — Шакал альбо Гадзюка. Лічыцца крытычным. Можа прынесці кароткую асалоду, якая зменіцца доўгім расчараваннем, асабліва ў каханні. Карысна абмежаваць сужонскія і любоўныя кантакты. Дзень цяжкіх сноў, якія часта здзяйсняюцца. Нельга прадпрымаць важныя справы, асноўныя ў жыцці. Дзень добры для спазнання таямніц. Карысна пасядзець на дыеце, пагаладаць.

**Панядзелак, 25.04. — 16 м. дзень.** Сімвал — Голуб альбо Матылёк, сімвал нявіннасці і чыстасці, ачышчэння і прыходу да Бога. Дзень вешчых сноў, патрабуючых правільнага тлумачэння. Добра ў такі дзень хрысціцца, вянчацца, добры дзень для выхавання дзяцей. Важны для кардынальных рашэнняў у жыцці, для творчых людзей. Добры для падарожжа і прадажы жывёл. Могуць прыйсці ў галаву цікавыя ідэі. Дзіцё, народжанае сёння, будзе мець моцнае здароўе і доўгае, творчае жыццё.

**Аўторак, 26.04. — 17 м. дзень.** Сімвал — Вінаградная гронка. Дзень дае аснову для пачынання новых і важных спраў. Добры для заручын, вянца, знаёмстваў, кантактаў. Дзіцё, народжанае сёння, будзе шчаслівае. У захварэўшага ў гэты дзень кепскія перспектывы. Старайцеся не прымаць лякарстваў, адмоўцеся ад алкаголю, наркотыкаў, хаця якраз сёння можа паявіцца ахвота выпіць, расслабіцца; будзьце асцярожнымі на вуліцы. Могуць вас нагінаць да кепскіх паводзін. Сны з гэтага дня здзяйсняюцца, часцей за ўсё, на трэці дзень.

**Серада, 27.04., чацвер, 28.04. — 18 м. дзень.** Сімвал — Малпа. Дзень патрабуе стрыманасці і развагі. Час ашуканства, масак, ілюзій. Людзі, няхочучы, могуць вас падводзіць. Дзень добры для людзей настроеных на штосьці новае, кантактных. Добры час для падарожнікаў і акцёраў. Не плануйце галоўнага. Трымайцеся за кашалёк. Дзіцё, народжанае сёння, будзе працавітым, з узростам стане багатым. Захварэўшы можа доўга папраўляцца. Сны — здзяйсняюцца.

**Пятніца, 29.04. — 19 м. дзень.** Сімвал — Павук. Дзень нешчаслівы, і калі вам можна, лепш заставайцеся дома, нікуды не выходзьце. Не жаніцца і не выходзіць замуж, абмежаваць знаёмствы. Сачыце за п'янымі — могуць сёння вам пашкодзіць, а нават вас пакалечыць. Дзень сур'ёзны для псіхічных спраў — абвастраецца дэпрэсія, страхі, няўпэўненасць. Паяўляецца сум, ахвота выпіць. Добра — ачыстка арганізма, дыета, фізічныя практыкаванні, медытацыя. Дзіцё, народжанае сёння будзе ветлівым і добрым. Хваробы — пройдуць, сны — здзяйсняцца.

**Субота, 30.04 — 20 м. дзень.** Сімвал — Арол. Дзень удачны, шчаслівы. Добры для пачатку новай справы, як малой, так і вялікай. Усё, што прадпрымеце, будзе мець поспех. У такі дзень нараджаліся людзі моцныя, з гонарам, якія вялі за сабой іншых, вельмі незалежныя. Дзень добры для акрэслення мэты, кар'еры, актыўных дзеянняў, тактыкі. Можна ісці на новую працу, памяняць месца. Моцны дзень — набор энергіі ў прыроды. Вада. Сям'я. Стрыжка валасоў. Калектыўныя справы. Дзіцё, народжанае сёння, будзе мець злосны, упарты характар. Хвароба зацягнецца. Сны здзяйсняцца.

(М)

## ВЕР-НЕ, ВЕР

Астроне! Нядаўна прысніліся мне тры наступныя сны. У першым я апранаілася ў шлюбную сукенку. Сукенка была, вядома, белая, вельмі прыгожая, доўгая. Я, праўда, разведзеная, але ж у мяне ўжо дарослая дачка.

У другім сне я надзявала на палец абручальны пярсцёнак.

У трэцім сне танцавала з маёй мамай-нябожчыцай.

Што могуць абазначаць гэтыя сны? Я дык думаю, што яны мне прысніліся на нейкую перамену. А як ты, Астроне, лічыш?

**Галіна**

Галіна! Здаецца ты ненамнога памылілася. Тыя два першыя сны (пра шлюбную сукенку і абручальны пярсцёнак) маглі б абазначаць для цябе сапраўды выйсце замуж, вяселле (нічога, што ў цябе вялікая дачка; слухай, але ж можа гэты сон датычыць і яе). Вось і была б перамена, ды нават значная!

Аднак жа твой трэці сон пра маці-нябожчыцу, з якой ты танцавала, мяне насцярожвае. Наогул дык, калі сніцца маці, якая жыве, трэба быць падрыхтаваным на нейкія клопаты. Калі бачыш у сне мёртвую маці, чакае цябе праца, у выніку якой будзеш жыць у дабрабыце. Маці-нябожчыца, як табе і здавалася, абазначае перамену на лепшае. Ды, на жаль, ты з ёю танцавала. А гэта б абазначала, што ўсё тое, на што ты так разлічвала і над чым цяжка працавала, — пусты і дарэмны занятак. Вельмі мне прыкра, але так выглядаюць факты.

**АСТРОН**

## ВІРАВАНКА з „І"




1. імя з двух займеннікаў, 2. упаў, бо завысока ўзляцеў, 3. краіна з Багдадам, 4. зброя, быццам картачная масць, 5. макавы сок, наркотык, 6. шэрань, 7. перад табой, 8. прычына нядобрага ўчынку, 9. пастка-пятля, 10. паміж ганкам і пакоем, 11. выраз твару, як снарад, 12. скончылася ў сакавіку, 13. часам свет ім зыходзіцца, 14. краіна з Тэгеранам, 15. муж Яраслаўны, 16. музычны дзяржаўны сімвал.

**ядань**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 10 н-ра:**

**Гарызантальна:** ядун, лубін, Убангі, ясыр, Нарач, мінута, сыравіна, камар, аптымізм, пляцоўка, аліва, верасень, Рэчыца, ягада, бяда, расада, струп, клык.

**Вертыкальна:** чучала, кіраса, дастатак, Нурмі, сасна, Агата, чырвонец, індычаня, Кіпр, маяк, міні, Эмба, падсудны, льгота, водгук, чэрап, выхад, рабак.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Галене Тапалянскай з Трасцянкі і Аляксандру Дабчынскаму з Беластока.**

ЗЁЛКІ-ЛЕКІ

# КВЕТКА КАХАННЯ

З першымі цёплымі промнямі сонца на ўскраіне лесу, на палянах і ў негустых зарасніках кустарнікаў паяўляюцца буйныя залаціста-жоўтыя кветкі невысокай (5—20 см вышыні, часам — да 40 см) шматгадовай расліны з прамым сцяблом, густа пакрытым голымі лісцьмі, і карэнішчам з шнурападобнымі карэнямі. Гэта **адоніс веснавы** (*Adonis vernalis* L.), па-польску — **miłek wiosenny.** Расліна гэта вядома ў народзе як гарыцвет, жаўтацвет, чарнагорка, старадубка і інш. Расце яна ў сонечных месцах і на добрай глебе.

У Польшчы адоніс веснавы знаходзіцца пад сціслай аховай, таму сыравіну яго можна атрымаць толькі з гародніннных пасеваў або з імпарту.

Багіня кахання Афрадыта горача пакахала прыгожага сына цара Кіпра — Адоніса і забараніла яму паляваць на дзікіх звяроў. Але не паслухаў Адоніс Афрадыту і ўзяў удзел у паляванні на кабана. Ранены яго стралою, магутны звер кінуўся на юнака і прашыў яго сваімі вострымі клыкамі. Горка плакала Афрадыта над целам свайго каханага і ў памяць пра Адоніса загадала вырасці цудоўнай кветцы, якая цвіла кожны год. Такая легенда аб гэтай кветцы кахання здаўна перадаецца многімі народамі свету з пакалення ў пакаленне.

Гарыцвет з'яўляецца адным з найбольш важных сродкаў, якія выкарыстоўваюцца пры парушэнні сардэчнай дзейнасці. Павялічваюць гэтыя сродкі сілу працы сардэчнага мускула, а памяншаюць частату яго сударгаў. Дзякуючы гэтаму сэрца перапампоўвае ў адзінцы часу больш крыві, а ў большых перапынках паміж сударгамі лепш адпачывае. У выніку паляпшэння працы сэрца і кровазвароту паляпшаецца праца нырак, павялічваецца колькасць выдзяляемай мачы. У народнай медыцыне зёлкі гарыцвету выкарыстоўваюць пры прастудзе, запаленні лёгкіх і верхніх дыхальных шляхоў, а таксама ў многіх іншых выпадках, калі ўзнікае неабходнасць падняць жыццёвы тонус арганізма. Экстракты з зёлак гэтай расліны выразна аказваюць супакойваючае ўздзеянне на арганізм.

З лячэбнымі мэтамі сыравіну гарыцвету збіраюць вясною — у красавіку ці ў маі — у часе цвіцення і сушаць у натуральных умовах у цяністых і прадуўных месцах. Расліну зразаюць на вышыні 5—10 сантыметраў. Сыравіну адоніса веснавога — *Herba Adonidis vernalis* — захоўваюць у шкляных, шчыльна зачыненых слоіках, у халодных, сухіх і цёмных месцах.

Сыравіна гарыцвету належыць да моцна дзейнічаючых зёлак, таму нельга перабольшваць прыпісаных дозаў прэпаратаў. Інакш могуць яны выклікаць нуднасці, ваніты, спавальненне акцыі сэрца і іншыя прызнакі атручэння.

### ПРЭПАРАТЫ

**Налўка з зёлак гарыцвету** (*Tinctura Adonidis Vernalis* („Herbapol"). Доза: 15—45 кропляў у кілішку вады перад ядою 3—5 разоў у дзень як сардэчны сродак.

**Adonisid** (Расія), вадкасць якая прымяняецца пры недастатковай сардэчнай дзейнасці і кровазвароту ды вегетатыўным неўрозе. Доза для дарослых: 20—40 кропляў 2—3 разы ў дзень. Дзецям даваць столькі кропляў, колькі ім гадоў.

**Cardiovalen** (Расія), вадкасць з экстрактам са свежых зёлак гарыцвету, насення шыпшыны, карэнняў валяр'янкі, камфоры і інш. Прымяняюць пры склератычных і рэўматычных зменах у сэрцы, пры слабой працы нырак і пры стэнакардыі. Доза: 15—20 кропляў 1—2 разы ў дзень.

**ЭСКУЛАП**





**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1994 r. upływa 20 maja 1994 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał wynosi 52 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 9000 zł., a kwartalnie - 117000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

## СЕНТЭНЦЫІ

Зямля круціцца на пяце часу.

* * *

Зоркі — гэта вузлы
на тканіне скрытага парадку.

* * *

Здаровы розум
і без свата абыдзецца.

* * *

Эйфарыя — гэта рогат душы
ў аргазме хвіліны.

* * *

Нават мароз мае жменю цяпла.

* * *

Слабы чалавек і ад сябе ўцякае.

**БАРЫС РУСКО**

## ТАКІ ЧАС

Бацька-рысь падлетка рыся
Павучаў: — Жаваць вучыся!
Хто каго перажуе,
Той таго пераЖЫВЕ.

**УЛАДЗІМІР ЕРМАЛАЕЎ**







*Малюнак Л. Разладава*

# ПІСЬМЕННІЦКІЯ БЫЛІ І НЕБЫЛІЦЫ

## ПРА АДНУ ІДЭЮ КАРПЮКА

Аляксей Карпюк быў каларытнай асобай, заўсёды поўны ідэй, задум. Васіль Быкаў, Алесь Адамовіч, Валянцін Блакіт ды сам Аляксей Нічыпаравіч расказвалі мне, як некалі, у хрушчоўскія часы, а літаратары любяць называць іх адлжнымі, Карпюк надумаў стварыць таварыства цвярозасці. Расказвалі кожны са сваімі дэталямі, а я склаў у адно.

Вось у тыя хрушчоўскія гады і прачытаў Карпюк у часопісе „Новый мир" мемуары генерала Гарбатава, у якіх прыгадваецца прыём у Крамлі ў гонар перамогі над фашызмам. Генерал пісаў, што ён не браў чарку на прыёме, бо непітушчы. Тут і паявілася думка ў Аляксея Нічыпаравіча: а чаму б ім не стварыць таварыства цвярозасці. Пісьменнік адразу выехаў у Маскву, дазваніўся да генерала і дамовіўся аб сустрэчы. Пасадзіўшы пісьменніка за стол, Гарбатаў тут жа паставіў бутэлечку каньяку і дзве чаркі.

— Вы што, вы ж непітушчы! — здзівіўся Карпюк.

— А я частую вас, — адказаў генерал.

— Я таксама не п'ю, — і Карпюк выклаў сваю ідэю.

— Гэта вельмі цяжка зрабіць. Ёсць закон: каб стварыць арганізацыю, трэба не менш чым тры чалавекі. А дзе ж знайсці трэцяга?..

— А сярод генералаў?

— Сярод маіх генералаў няма ніводнага, хто не піў бы. Можа, пашукаць сярод пісьменнікаў.

І тут Карпюк зноў падумаў: у Маскве знаходзіцца Алесь Адамовіч, ён жа не п'е. Прыехаў у Саюз пісьменнікаў, а там гавораць, што Адамовіч сёння вяртаецца ў Мінск. Аляксей Нічыпаравіч паспеў на цягнік за некалькі хвілін да адпраўлення. Пайшоў па ўсіх вагонах, угледзеў Аляксандра Міхайлавіча і кажа:

— У Мажайску выйдзем і паедзем да Гарбатава, будзем ствараць таварыства цвярозасці.

— Калі я ўступлю, то разладжу яго знутры, — выказаў сваю думку Адамовіч.

Што рабіць?.. Аляксей Нічыпаравіч падумаў, што найлепш будзе звярнуцца за падтрымкай да Ніны Пятроўны — жонкі Хрушчова. Але ўспомніў словы Гарбатава, сказаныя ім на развітанне:

— Пакуль у Крамлі п'юць, датуль і краіна будзе піць.

Аднак Карпюк не здаўся. Ён вырашыў зрабіць апошнюю спробу — скарыстаць імя правадыра міжнароднага пралетарыяту У. І. Леніна. Калі ў Савецкім Саюзе рыхтаваліся да сотых угодкаў з дня нараджэння У. І. Леніна і ад кожнай арганізацыі запатрабавалі мерапрыемстваў да гэтага юбілею, то Аляксей Нічыпаравіч як сакратар абласной пісьменніцкай арганізацыі прынёс іх у абком усяго з аднаго пункта: „Правесці кампанію „А Ленін не піў".

Не падтрымалі.

Неўзабаве ён, Быкаў і Блакіт паехалі ў Масты. Перакусіць вырашылі на беразе Нёмана. Карпюк прывык, што сябры заўсёды налівалі яму ў шклянку мінеральную ваду. На гэты раз мінералкі не было і яму налілі паўшклянкі белай. Блакіт прапанаваў тост за здароўе тых, хто зведаў цяжкасці вайны, за ветэранаў. Быкаў дадаў, што ў такім разе трэба выпіць да дна. Выпілі. Карпюк адразу стаў чырванець-чырванець, павесялеў. Быкаў прапанаваў:

— Можа, паедзем дамоў?

— Куды паедзем? Гуляем да раніцы, — запярэчыў Карпюк.

А як ствараецца таварыства цвярозасці ў стомленаму ў барацьбе Карпюку прапанавалі ўвайсці ў мясцовае кіраўніцтва гэтай арганізацыі, ён сказаў: „Цяпер я ўжо не пайду".

**АЛЯКСЕЙ ГАРДЗІЦКІ**
**(„Полымя")**

# ЗДАНІ І ПАЧВАРЫ БЕЛАРУСІ

*(працяг; пачатак у н-ры 40 за мінулы год)*

## ПРЫВІДЫ ХАТНІХ ЖЫВЁЛ

Гэта адзін з самых адметных і, дарэчы, даволі распаўсюджаных падвідаў зданяў, што насяляюць нашую Бацькаўшчыну. Ужо з самой назвы вынікае іхняе паходжанне. Затое наконт механікі іх з'яўлення сярод пачваразнаўцаў дагэтуль няма адзінства. Адны лічаць, што ў жывёл, няхай сабе і хатніх, няма душы, значыцца працягваць жыццё пасля смерці яны не могуць. Такія навукоўцы хаця і не адмаўляюць самое існаванне прывідаў хатніх жывёл, лічаць іх проста галюцынацыямі і таму не бяруць пад увагу шкоду, што наносяць гэтыя істоты. Другія ж настолькі беспадстаўна сцвярджаюць — у хатніх жывёл ёсць душа, рыхтык як і ў чалавека і таму разглядаюць паводзіны гэтых зданяў з пазіцыяў чыста чалавечае логікі, а гэта зноў не дазваляе прагназаваць развіццё падзей. У апошні час з'явіўся трэці пункт гледжання, прапрацоўшчыкамі якога, дарэчы, з'яўляюцца аўтары гэтае публікацыі; ён грунтуецца на навейшых навуковых даследаваннях. Справа палягае на тым, што маюць рацыю адначасова і першыя, і другія навукоўцы — у хатніх жывёл ёсць душа, але маленькая і смяротная. Такая часовая душа ўзнікае ў працэсе доўгага суіснавання побач з чалавекам. Рашэнне ляжала на паверхні, бо кожны, хто мае імя, мае і душу, а ў жывёл ёсць мянушкі, значыцца — ёсць ключ, з дапамогаю якога мажліва выклікаць іх з замагільнага свету. Прафесійныя спірыты пазбягаюць рабіць падобнае таму, што з жывёламі няма пра што пагаварыць, а вось аматары часам практыкуюць падобныя дзеянні, а потым, не ведаючы як вярнуць прывід у замагільны свет, асуджаюць яго на блуканні ў матэрыяльным. У некаторых краінах таварыствы аховы жывёл дамагліся прыняцця законаў, якія прадугледжваюць судовую адказнасць за падобнае, але Беларусі, як і Польшчы, на жаль, яшчэ далёка да сапраўднае дэмакратыі.

На гэтым варта перайсці да канкрэтных прыкладаў, бо апошняя тэма, уласна кажучы, праблемаў пачваразнаўства не тычыцца.

### Сабака-вушанка

Апошнім часам у Беларусі актывізаваўся своеасаблівы бізнес гіцляўзладзеяў. Яны выкрадаюць сабак, пераважна з бухматаю поўсцю: колі, ньюфаўндлендаў, каўказскіх аўчарак, злупліваюць з іх скуру і шыюць шапкі. Каб пазбегнуць выпадкаў, калі ўважлівы гаспадар пазнае на галаве незнаёмага прахожага рэшткі свайго ўлюбёнага сабакі, гіцлі-зладзеі арганізавалі збыт футравых вырабаў на рускім базары ў Беластоку.

Аднаго разу знік сабака аднаго з гарадзенскіх мытнікаў — колі па мянушцы Лютар. Гаспадар колькі не шукаў яго, так і не знайшоў, але аднойчы ў сне да яго з'явіўся Лютар і пакляўся на галаве, завязаўшы лапы вузлом. Мытнік спачатку не зразумеў сэнс мроі, але назаўтра сон паўтарыўся. На трэцюю ноч гаспадар пабачыў свайго сабаку з тэлефоннай трубкай у лапах, а калі назаўтра заступіў на службу, у памяшканні мытні прагучэў тэлефонны званок, невядомы папярэдзіў, што сёння мяжу перасякуць кантрабандысты і назваў нумар іхняе машыны. Голас падаўся мытніку надзіва знаёмым, праўда, гучаў ён з моцным шатландскім акцэнтам і нібыта аднекуль здалёк. „Як з магілы", — прызнаўся ён свайму сябру.

Названую машыну затрымалі. Мытнік адразу ж на адной з вушанак, знойдзеных зашытымі ў сядзенне, пазнаў свайго сябра Лютара. Потым, на выставе, арганізаванай у Гародні, большасць шапак была апазнаная. Гіцляў-злачынцаў аддалі пад суд. А да мытніка ў сне зноў прыйшоў сабака і ўдзячна лізнуў у твар.

Гэты выпадак яскрава сведчыць пра наяўнасць душы ў хатніх жывёл.

*(працяг будзе)*

Падрыхтавалі
**ФРАНЦІШАК ХЛУС**
**і МАРЦІН ЮР**




Дарагое Сэрцайка! Можа камусьці здасца, што маё апавяданне прыдуманае, настолькі яно неверагоднае, але ўсё гэта праўда.

Мне сёння дваццаць сем гадоў, а па жыццёвых перыпетыях можна мне даць усе пяцьдзесят. Быў у мяне хлопец, якога, як мне выдавалася, я вельмі кахала. Хадзілі мы з ім чатыры гады, не расставаліся ні на момант. Нас ужо нават лічылі амаль мужам і жонкай. Усюды былі разам, ды і ён часцей быў у мяне, чым у сваёй кватэры. Я заўсёды ў марах уяўляла сабе, як будзе, калі мы ўжо станем сужонствам.

Калі я даведалася, што зацяжарыла, дык нават уцешылася, хаця ведала, што людзі могуць па-рознаму інтэрпрэтаваць гэты факт. Праз месяц запланавалі вяселле.

І вось тады сталася незразумелае. Раптам нешта кальнула ў сэрца, калі я ўбачыла аднаго з новых калег майго мужа, а яго вочы сустрэліся з маімі. І ад гэтага часу ўжо нічога мне не было патрэбна. Толькі ён! У маёй душы нешта перавярнулася. Я зразумела, чаму я дагэтуль не выходзіла замуж. Гэта ж яго я чакала ўсё жыццё!

Я хуценька пабегла да лекара і пазбылася сваёй цяжарнасці (тады яшчэ з гэтым не было праблемы), бо хацела быць ізноў вольнай, зрэшты, хацела мець дзіця з тым, каго кахала. Мой першы хлопец быў разбіты, плакаў, прасіў, каб я вярнулася да яго, нягледзячы на тое, што пацыху зрабіла аборт, а яго нават перад гэтым не паведаміла. Я была цвёрдая. Ведала, што сустрэла сваё шчасце.

Каб не мазоліць людзям вочы, мы з маім новым хлопцам вырашылі паехаць на заробкі ў Італію. Там добрай працы не было. Ён спачатку мыў на скрыжаваннях шыбы стаячых пры чырвоным святле самаходаў. Я шукала, дзе б можна было памыць вокны. Можа, Сэрцайка, ты здзівішся, што мы пайшлі на такую працу, але ж ані я, ані ён не мелі асаблівай адукацыі. Я нават пачатковай школы не скончыла. Не цікавіла мяне вучоба. Во, каб мне тады цяперашні розум!

Нанялі пакойчык, жылі разам, знайшлі сталую працу. Мінула два гады, і я ізноў зацяжарыла. Дзіцятка ўжо давала аб сабе знаць, калі мы вырашылі вяртацца дахаты. Толькі прыехалі — а тут паведамленне, што мой хлопец атрымаў доўгачаканую візу ў Амерыку. Мы хуценька ўзялі шлюб, а пасля бясконца развітваліся ў Варшаве на Акэнці.

Можа празмерныя эмоцыі, звязаныя з падарожжам, вяселлем ці ад'ездам мужа, пашкодзілі дзіцяці. Толькі вярнулася я з Варшавы, як узялі мяне болі, і я скінула дзіцятка, якое паспела ўжо так пакахаць і якога чакала, як не чакала нічога ў жыцці. Божа, даруй, але цяпер нават не ведаю, ці варта было выходзіць замуж. Мо я саграшыла першы раз, калі кінула свайго першага хлопца, дык цяпер ужо Бог мне зусім не дасць дзяцей...

Мой муж хоча, каб я прыехала да яго ў тую Амерыку, але я ж — адзіная дачка ў сваіх бацькоў, а яны ўжо даволі немаладыя. Дык як жа мне іх кінуць?! Проста сяджу, як на вуголлі, і не ведаю, што рабіць...

**Улька**

Улька! Сітуацыя не з лёгкіх. Але ж раней ты неяк пра бацькоў не надта клапацілася. Я разумею, што ты меркавала падзарабіць і вярнуцца дахаты, а цяпер баішся, што ў гэтай Амерыцы „ўгразнеш". Але ж, па-першае, маглі б і бацькі да цябе прыехаць, а па-другое, яшчэ невядома, ці ты атрымаеш візу.

А з другога боку, калі ты вагаешся, думаеш, што мо няварта было выходзіць замуж, бо і так дзіцяці няма, значыць, гасне і тваё другое каханне. Мо сапраўды лепш застацца дома, а муж твой, калі кахае, вернецца да цябе. Самі куем сваё шчасце.

**СЭРЦАЙКА**